БІБЛІЯТЭКА БЕЛАРУСКАЙ ПАЭЗІІ

# АЛЕСЬ ДУДАР

## ВЕЖА

*Вершы і паэмы*

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ
ЛІТАРАТУРА»
1984

## РЭВАЛЮЦЫЯЙ АКРЫЛЕНЫ

Алесь Дудар — таленавіты паэт, здольны празаік, актыўны літаратурны і драматургічны крытык — адносіцца да пісьменнікаў першага паслякастрычніцкага пакалення. У апошнія гады імя А. Дудара нярэдка сустракаецца на старонках нашага перыядычнага друку. Так, у артыкуле «Словы ўзнёслыя і шчырыя», змешчаным у штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва» 25 снежня 1964 г., ёсць вельмі дакладная характарыстыка Дудара, прынамсі на першым этапе творчасці: «Эмацыянальная атмасфера яго вершаў поўніцца ўзнёслай паэтызацыяй будучыні, экспрэсіўным адмаўленнем мінуўшчыны, услаўленнем гераічных подзвігаў, матывамі інтэрнацыянальнай еднасці і любоўю да сваёй Беларусі».

А Алесь Звонак у артыкуле «Шчырае слова» выказвае тое ўражанне, якое рабіў на моладзь Дудар, падае штрыхі да яго партрэта: «Прыгадваецца невялікі пакой у памяшканні Інбелкульта на былой Койданаўскай вуліцы. 1925 год. Паседжанне бюро «Маладняка». Перамагаючы збянтэжанасць і сорам, чытаю вершы. Уважліва іх слухае малады, круглатвары, з усмешліва-цёплым позіркам высокі і зграбны хлопец. Усмешка спагадлівая, падбадзёрваючая, сяброўская... Прагаласавалі... Хлопец падзывае да сябе: «Ну, паэт, віншую. А вершы свае давай мне, я падбяру сёе-тое ў часопіс». Вочы ясныя, усмешлівыя, з нейкімі іскрынкамі. Голас мяккі, задушэўны, крыху з прышэптам».

Алесь Дудар, добрай душы чалавек, вечны энтузіяст, неспакойны ў пошуках, заставаўся на пярэдняй лініі барацьбы за мастацтва высокага патрыятычнага гучання, за ўдзел, самы чынны, свайго паэтычнага

слова ў будаўніцтве новай, сацыялістычнай культуры.

Сёлета паэту было б 80 гадоў. Нарадзіўся Алесь Дудар (Аляксандр Аляксандравіч Дайлідовіч) 24 снежня 1904 г. у вёсцы Навасёлкі Петрыкаўскага раёна Гомельскай вобласці ў сям'і беззямельнага селяніна. Пасля бацька будучага паэта стаў працаваць чыгуначнікам і ўрэшце апынуўся ў Мінску, дзе хлопец у 1921 г. скончыў школу. Пасля школы Дудар трапляе ў драматычную трупу Уладзіслава Галубка, чалавека выключных здольнасцей,— паэта, празаіка, самабытнага драматурга, таленавітага акцёра і выдатнага рэжысёра. Юнака Дайлідовіча ён зачараваў сваёй чалавечнасцю, шматграннасцю натуры. І вось у складзе трупы будучы паэт удзельнічае ў спектаклях у Мінску, разам з тэатрам наведвае самыя глухія куткі Беларусі, мае магчымасць пазнаёміцца з жыццём працоўных, адчуць прынесеныя Кастрычнікам павевы новага, савецкага. «Можа, якраз гэтае непасрэднае сутыкненне з жыццём народа і памагло маладому паэту ад першых сваіх школьных спроб перайсці да сталай паэтычнай творчасці,— справядліва мяркуе А. Звонак.— Тэма рэвалюцыі, тэма сацыяльнага і нацыянальнага вызвалення беларускага народа, тэма будучыні яго — вось асноўныя матывы лірыкі Алеся Дудара ў гэты час».

«Вершы пішу з 1921 года. У «Маладняку» з дня яго заснавання»,— пісаў паэт у аўтабіяграфіі. Сапраўды, вершы публікаваліся ў газеце «Савецкая Беларусь» з пачатку 1921 года — ужо на першых кроках маладой беларускай савецкай літаратуры. Многія з іх увайшлі ў першыя паэтычныя зборнікі «Беларусь бунтарская» і «Сонечнымі сцежкамі», абодва выйшлі ў свет у 1925 г., калі Дудар быў ужо адным з кіраўнікоў «Маладняка», утворанага два гады раней.

Маладыя пісьменнікі ішлі ў літаратуру з жаданнем расказаць пра тое, што яны бачылі на франтах грамадзянскай вайны, на новабудоўлях першых мірных год, паказаць мужнасць чырвонаармейца і пар-

тызана, энтузіязм і творчую ініцыятыву рабочага, упартую працу актывістаў на сяле. Яны адразу ўзяліся за распрацоўку актуальных тэм, сталі на шлях уславлення новага ладу, імкнуліся мастацкім словам служыць пралетарскай справе, шукалі — для больш яркага ўвасаблення савецкай рэчаіснасці — арыгінальных вобразаў, свежых інтанацый, новых рытмаў. Адам Бабарэка, пэўна, меў рацыю, калі гаварыў на першым з'ездзе «Маладняка» пра скіраванасць паэзіі маладых, маючы на ўвазе, вядома, і Дудара: «Першым словам іх на волі — была радасць, радасць вялікая, нечуваная, непамерная, юнацкая захопленасць, пафас барацьбы і поўныя грудзі самых светлых надзей на будучыню...»

Раннія вершы Дудара, востра сучасныя па тэматыцы, бадзёрыя, жыццясцвярджальныя па настрою, мажорныя па тону, характарызуюць яго як тыповага маладнякоўца.

Мы дзеці рэвалюцыі, Кастрычніка сыны!
Ў дзень радасці кіпучае на свет з'явілісь мы,
Над нашаю калыскаю не сумны матчын спеў —
Грымелі дні агністыя, змагання гром звінеў,—

заявіў Дудар ад імя свайго пакалення ў праграмным вершы «Паэты рэвалюцыі». І таму паэт захапляецца рамантыкай паўстання і подзвігамі рэвалюцыянераў; вось чаму яго грамадская лірыка — гэта паэтызацыя Беларусі «ў фабрычных трубах», пафаснае апяванне вёскі, якая «рушыць у новы век».

Найбольш поўна настроі Дудара-маладнякоўца выявіліся ў вершы «Я малады» (1924), якім адкрываўся зборнік «Беларусь бунтарская». Лірычны герой твора, удыхнуўшы ап'яняльны водар свабоды, радуецца таму, што жыве «на зары квітнеючых дзён», ніколі не вешае галавы, імкнецца быць заўсёды ўперадзе:

Вось вышэй бы за ўсіх узняцца —
Я увесь непакорны шквал.

Што ж рабіць, калі дух юнацкі
Агарнуў юнацкі запал...

Гэта, вядома, паэтычная дэкларацыя. Але ва ўсім, пра што б ні пісаў Алесь Дудар — пра Кастрычніцкую рэвалюцыю, родную Беларусь, пра горад ці вёску, сучаснасць ці гісторыю,— ён застаецца жыццялюбам, рамантычна ўзнёслым, эмацыянальна ўзрушаным. Гераічны пафас рэвалюцыі звычайна перадаецца Дударом у свядома перабольшаным плане, шырока выкарыстоўваюцца яркія, інтэнсіўныя фарбы. Рэвалюцыя ўяўляецца паэту вялікім пажарам, яго ніхто не здольны затушыць; яна пачатак светлага свята — жыцця. Прырода вобразнасці паэзіі Дудара, прынамсі ў першых зборніках, рамантычна-сімвалічная. Дастаткова спаслацца хаця б на такія прыклады: «Смольнага громы скорчылі сэрца зямлі — першы дэкрэт Саўнаркома сонца па свеце разліў» ці «Праскакаў над бяздоннем вякоў навальніцы чырвоны конь. Гэта іскры яго капытоў запалілі стары закон».

Прага да жыцця, імкненне ісці ў першых шэрагах будаўнікоў новай культуры перамагалі часовыя хістанні і няўпэўненасць. У зборніку «І залацісцей і сталёвей» нямала вершаў, дзе выразна адчуваецца аптымістычнае светаўспрыманне паэта. «Не спыняцца, а далей ісці да жыцця, да радасці і песні»,— заклікае паэт. А ў паэме «Шанхайскі шоўк», напісанай у тым жа 1926 г., Дудар сцвердзіў ідэю інтэрнацыяналізму, ідэю брацтва ўсіх народаў зямлі; у ёй выказана цвёрдая вера ў перамогу працоўных.

Гэй,
Настане вясёлае ранне —
Скажуць цэламу свету гудкі,
Што ужо над кітайскім краем
Не пануюць чужыя штыкі.

Наступныя гады былі для Дудара знамянальныя тым, што ён усё настойлівей пазбаўляўся ад нанос-

нага, чужароднага. Вершы, сабраныя ў зборніку «Вежа» (1928), добра пераконваюць у правільнасці гэтай думкі. Цудадзейным лякарствам ад хваробы песімізму з'явілася сама рэчаіснасць. Дудар пачаў усведамляць, што і мірныя будні савецкага чалавека напоўнены гераізмам.

Цяпер вінтоўку ў кут адставіў пралетары:
Інакшы бой ідзе —
За плугам,
За станком,—

пісаў ён у вершы «Шлях рэвалюцыі», прысвечаным X з'езду КПБ.

У зборніку «Вежа» паэт стварае вобразы мужных барацьбітоў за вялікую справу пралетарыяту («Камуністка», «Машыніст», «Трыццаць пяць» і інш.), выкрывае звярыную жорсткасць буржуазіі («Электрычнае крэсла», «Братам на захадзе»). І разам з тым у многіх вершах апяваецца мірная праца савецкіх людзей, паэтызуецца «любы, родны край» («Тайга», «Байкал», «Камяніца»). Значыць, Дудар паспяхова выходзіў на шырокі шлях, па якім ішло развіццё ўсёй савецкай паэзіі. Гэты факт быў адзначаны і тагачаснай крытыкай. «Увесь зборнік «Вежа»,— пісалася ў часопісе «Маладняк» (1928, № 10),— вельмі суцэльны і паказвае, што памылкі ў Дудара ўжо ў мінулым, як у мінулым у яго і тыя песімістычныя настроі, што так выразна выступаюць у некаторых вершах з папярэдняга яго зборніка «І залацісцей і сталёвей».

Прыкметнымі вехамі ў творчай біяграфіі паэта былі паэмы «Вайна за мір» (1930) і «Слуцак» (1932—1933). Першая з іх — страсны публіцыстычны твор, заклік да барацьбы з усім старым, недабітым, з тым, што ў пэўнай меры стрымлівала ўсепераможны поступ народа да ззяючай сацыялістычнай явы.

Ідзе вайна. І з патрухнелым бытам,
І з вечнай нерухомасцю зямлі,

І з ворагам, калісьці недабітым,—
За нетры гор і за бяскрайнасць ніў.

Супроць струхнелых дзікіх забабонаў,
Супроць аджыўшых век звярыных праў,
Супроць разні, супроць драпежных войнаў,—
Ўздымае свой штандар савецкі край.

Пры ўсіх сваіх станоўчых якасцях паэма «Вайна за мір» не магла заняць значнага месца ў беларускай паэзіі, бо матэрыял кампазіцыйна малаарганізаваны, а верш — вельмі часта апрацаваны з недастатковай патрабавальнасцю, удумлівасцю.

Большай мастацкай дасканаласцю і завершанасцю вызначаецца паэма «Слуцак». Акінуўшы позіркам гераічную гісторыю Случчыны, Дудар асноўную ўвагу аддаў паказу таго, як у савецкі час абнаўляліся дарагія яго сэрцу куткі беларускай зямлі. З асаблівай пранікнёнасцю напісаны заключны раздзел паэмы.

Паэт услаўляе энергію і настойлівасць камуністаў, дзякуючы якім змяняла аблічча савецкая зямля:

Вам, што здолелі Слуцак па-новаму вырасціць,
Разгарнуўшы звычайныя годы ў вякі,
Вам складаю я словы захаплення і шчырасці,
Слуцкія бальшавікі.

Тыя ж матывы ўслаўлення гераічнага мінулага, паэтызацыі сучаснасці, тыя ж заклікі яшчэ больш упарта будаваць новы свет дамінуюць і ў лірыцы Дудара. Паэт не можа без захаплення, без гордасці гаварыць аб «агнявой нашай эры, калі горы ґрымяць, калі зоры пяюць..., калі праца, як песня, ўстае над зямлёй». Ён складае гімны савецкай эпосе, гімны чалавеку-творцу — «Вясна 1932 года», «Пераклічка гадоў», «Дзяўчына».

Лірыка 30-х гадоў — добрае сведчанне паэтычнай

сталасці Дудара. Пераадолеўшы часовыя захапленні лжывым наватарствам, паэт знайшоў, так сказаць, самога сябе, стаў на шлях рэалістычнага адлюстравання гераічных спраў свайго сучасніка, не адмаўляючыся ў той жа час ад рамантызацыі станоўчага, новага. Пафасна рамантычнае, не пазбаўленае абстрактнасці ў апяванні заваёў сацыялістычнай рэвалюцыі, якое назіралася раней, цяпер саступае месца даволі яскравым рэалістычным малюнкам жыцця савецкіх людзей (напрыклад, верш «Палескае лета»).

Разам з тым паэт піша і публіцыстычныя вершы, толькі цяпер яны сталі больш важкімі па зместу, больш страснымі, пераканаўчымі па тону.

Узбагачэнне жыццёвым зместам, канкрэтна-гістарычнае адлюстраванне рэчаіснасці, яснасць паэтычнага стылю — вось галоўныя якасці, што характарызуюць дынамічныя і эмацыянальныя вершы Дудара. Гэтыя якасці з'яўляюцца відавочным паказчыкам таго, што творчасць Дудара 30-х гадоў знаходзілася ў агульным рэчышчы развіцця беларускай савецкай паэзіі.

Многія творы паэта і цяпер хвалююць чытача, з'яўляюцца добрымі мастацкімі помнікамі таго гераічнага часу, калі Беларусь станавілася на шлях свабоднага жыцця, рабіла першыя крокі ў будаўніцтве сацыялізма.

Алесь Дудар даволі паспяхова выступаў і ў іншых сферах літаратурнай творчасці. Ён аўтар зборніка апавяданняў «Марсельеза» (1927), зборніка крытычных артыкулаў «Пра нашы літаратурныя справы» (1928). Ён жа плённа працаваў і як перакладчык. На беларускую мову пераклаў А. Пушкіна, «Дванаццаць» А. Блока, «Фаўста» І. Гётэ, вершы С. Ясеніна, Б. Пастарнака, М. Ціханава, С. Стандэ, прозу М. Ляшко, Ф. Гладкова, трагедыю Шылера «Вільгельм Тэль», камедыю П. Бамаршэ «Жаніцьба Фігара» і інш.

Заслугі Алеся Дудара перад беларускай літарату-

рай немалыя. Ён настаянна знаходзіўся ў кагорце таленавітых мастакоў слова, якія першымі асвойвалі цаліну паэтычнай нівы адразу ж пасля перамогі Кастрычніка. Ён плённа працаваў на ёй на працягу пятнаццаці гадоў і пакінуў для нашчадкаў творы, напісаныя па гарачых слядах падзей, усхваляваныя, поўныя гуманістычнага пафасу.

Лепшыя з іх і сёння застаюцца ў актыве нашай літаратуры, удзельнічаюць, як і раней, у культурным жыцці народа.

*Міхась Ярош*

# Я МАЛАДЫ

Хто прайшоў — галаву павесіў.
(Міліёны пудоў у гадах.)
Ну, а я малады — мне весела
разагнацца ў мяцежную даль.

Мне жыццё —
сусветнае свята,
мне прапоны — большы разгон.
Я цяпер без багацця багаты
на зары квітнеючых дзён.

Гэта кроў не баіцца смерці,
гэта сэрца распаліць лёд,
гэтых думак кіпучага смерчу
не абгоніць птушыны лёт.

Вось вышэй бы за ўсіх узняцца,
я увесь — непакорны шквал.
Што ж рабіць, калі дух юнацкі
агарнуў ваяўнічы запал;

што ж рабіць, калі фарбы раніцы
у грудзёх завялі карагод;
што рабіць, калі кроў барабаніць —
заклікае ісці у паход?

Хто прайшоў — галаву павесіў.
(Міліёны пудоў у гадах).
Ну, а я малады — мне весела
разагнацца ў мяцежную даль.

*1924 г.*

## СЦЕРАЖЫЦЕСЯ

Гучным спевам будзяцца аколіцы...
Маладога смеху плешча вал...
Грамада вясёлых камсамольцаў
правіць свой бурлівы карнавал.

Сцеражыцеся, папы, ксяндзы і рабіны!
Ваша неба аблажылі хмары,
маладняк, мазоліста-нязграбны,
вам зламаць няўрокам можа карак.

Хіба ж можна вашай раці цёмнай,
згуртаванай крыўдамі-абманамі,
устаяць прад гэтым дружным гоманам,
перад смелай радасцю паўстання?

Сцеражыцеся,
                    разбэшчаныя керзаны!
Дружны спеў юнацкае грамады
глынянцё вы глоткай перарэзанай
перад грозным тварам барыкадаў.

Гандляры, паны яснавяльможныя,
вам не задушыць юнацкай волі...
Бурным выбухам прапоны пераможам мы.
Мы — сыны вясёлай камсамоліі.

Хай шыпяць гадзюкі падкалодныя —
керзаны, папы, ксяндзы і рабіны...
Ім не кіне нават костачкі абглоданай
маладняк мазоліста-нязграбны.

Самі зробім — самі скарыстаем мы,
ні граша пузатым не дамо...
Мы пакінем бога і хрыста ім,
а сабе — бунтоўны Камсамол.

Усміхаюцца вясёлыя аколіцы...
Разліваецца па тварах смелы свет:
карнаваліць разам з камсамольцамі
сонечны раённы камітэт.

*1923 г.*

## ПАЭТЫ РЭВАЛЮЦЫІ

Мы дзеці рэвалюцыі, Кастрычніка сыны!
Ў дзень радасці кіпучае
на свет з'явіліся мы,
над нашаю калыскаю не сумны матчын спеў —
грымелі дні агністыя, змагання гром гудзеў.
Нас цешыў песняй-казкаю крывавы бог вайны,
для нас служылі цацкамі былыя кайданы.
Акопы былі школай нам, указкамі — штыкі,
гульня была вясёлая — ў «паны і басякі».
Гулялі не на жарты мы. Мы той гульнёй жылі,
паставілі на карту мы жыццё у той гульні.
Мы выйгралі. У полымі палаючага дня
чырвонай перамогаю спынілася вайна.

І у грудзёх, натруджаных крываваю гульнёй,
бліснуў матыў абуджаны, гук песні агнявой.
Пяём віхурай песні мы, агнём рытмуем іх —
няма ў іх гнілі, плесені,
няма ў іх слёз нямых.
Ў іх гоман сталі звонкае, удары малатка,
напевы агнятонныя фабрычнага гудка.
Іх песнямі вясеннімі звівае чарназём,
лясы прыгожаць ценьмі іх вясёлы срэбразвон,
у іх не апяваюцца мінулыя вякі —
у іх вітаюць раніцу працоўныя палкі...

2 Зак. 4228

Прайшлі мы сцежкі вузкія, да сонца мы ідзём,
сталёвым звонам мускулаў мы вольнымі пяём...
У дзень радасці кіпучае на свет з'явіліс мы,
мы дзеці рэвалюцыі, Кастрычніка сыны.

*1924 г.*

## ПАЎСТАНЕЦ

Яму хатаю — сіні бор,
Дахам — неба блакіт зялёны.
Гэта вецер глухой жальбой
У грудзёх скалануў праклёны.
Асыпаецца жоўты ліст
У панурую цень лагчыны,
А душа юнака звініць,
Бо у сэрцы квітнее чырвань.
Там, дзе статак старэнькіх хат
Прытулілі сівыя вербы —
Не баяліся там граха
Выхаваныя людзі-зверы.

* * *

Белы месяц на хвойку ўзлез,
Зоркі ў небе блішчаць-іскрацца.
Прыгарнуў сінякудры лес —
Прытуліў да сябе паўстанца.
Можа, заўтра жандараў раць
Скруціць рукі яму за спіну —
Павядуць бунтара караць.
Без суда... На старой асіне.
Ну, а можа,— вякоў закон —
Гвалтаўнік на суку павісне —

Пранясецца чырвоны конь
Ад Дняпра да бурлівай Віслы.
А пакуль што трывожыць лес
Жартаўлівы бадзяга-вецер.
Белы месяц на хвойку ўзлез —
І глядзіць, і глядзіць, і смяецца.
Хто ідзе там? Чужы ці свой,
Для паўстанца змаганне — жарты.
І праз сінюю сетку хвой
Пазірае [redacted] усходу заўтра.

*1924 г.*

## БЕЛАРУСЬ

Край шумлівых лясоў...
Край дрымотных балот...
Край, адвечнаю крыўдай замучаны...
Дзе над доляй людской плакаў сумны чарот
Ды слязіліся вербы плакучыя.

Уладаў хто хацеў гэтай сумнай зямлёй.
Ўсе суседзі на ёй гаспадарылі —
То спраўляў здзек і гвалт пан варшаўскі над ёй,
То тапталіся боты баярына...

І ляцелі вякі... І гаротны народ
Вечна гнуўся пад цяжкай нядоляю...
І марнеў сумны край — край лясоў і балот...
Люд гібеў у нудзе беспатольнай.

Час вялікі настаў... Загарэўся пажар...
Зазвінелі палацаў ваконніцы...
Ўсход агнямі прабіў цяжкі мур чорных хмар,
Заглянула к нам раніцы сонца.

І падняў галаву, разгарнуўся народ,
Разгарнуў сваё цела сталёвае,
І над сумнаю рэчкай шумлівы чарот
Заспяваў, загудзеў песню новую.

Над зямлёю наплыў новы, радасны, кліч:
«Бедакі ўсяго свету, злучайцеся!
Распаляйце ў душы слова вольнага зніч;
Ад смяротнага сну абуджайцеся!»

Новы выгляд прыняў край балот і лясоў,
І здаецца мінуўшчына казкаю...
І не льецца ўжо больш кроў гаротных сыноў
Беларусі рабоча-сялянскае...

*1924 г.*

* * *

Бацька на дымным заводзе
Сагнуўся ў крук над станком,
А сын на семнаццатым годзе
Рынуўся ў вір франтоў.
Польшча, Калчак, Юдзеніч...
Вораг з усіх бакоў,—
Гнуцца сталёвыя звенні
Арміі бальшавікоў...
Вымелі смецце вякоў,
Глянулі смела на сонца.
Дзе не было юнакоў,
Дзе не было камсамольцаў!..
А цяпер вось гудзяць заводы,
Працай жыццё звініць —
Мінулі крывавыя годы —
Здабыліся слаўныя дні.
А сягоння ў сценах рабфакаў
Арміяй моцнай і згоднай
На навуку пайшлі ў атаку
Дзеці палёў і заводаў.
Бацька, смялей над горнам!
Праца — вольнай ракой:
Сын на дваццатым годзе
Рынуўся ў новы бой.

*1924 г.*

## ВЯСКОВАЕ

Над кудлатымі бярозкамі
Зацвіла зара малінаю;
Песня радаснымі ўсплёскамі
Расплылася над далінаю...
    Ой, прыйшлі дзянькі вясёлыя!
    Камсамольцы — хлопцы простыя —
    Божы дом зрабілі школаю,
    А папу пад сэрца —
                    востры нож.
На магіле воран каркае.
— На сваю ты каркай галаву!..
У Савеце Ганна Маркава
Абвянчалася з Міколаю.
    А Лявон прыехаў з горада
    (Там вучыўся на рабфаку ён).
    І палі даўно завораны
    Заграпічным новым трактарам.
Разагнала цемру шэрую;
У старога сэрца стукае:
— Ані ў сон, ні ў чох не веру я —
Толькі веру ў сваю руку я!..
    Абрусамі саматканымі
    Сонца сцелецца над нівамі,
    Песціць поле здратаванае
    Свежай руні зялянінаю...

Над кудлатымі бярозкамі
Зацвіла зара малінаю;
Песня радаснымі ўсплёскамі
Зазвінела над далінаю.

*1924 г.*

# МАЙ

Май прыйшоў у блакітнай кашулі,
у манісце павеваў лясных...
Сёння й мы на заводзе пачулі
залатыя раскаты вясны.

Май прайшоў над шумным горадам,
пырснуў сонцам у твар камяніц
і на вуліцах,
                    дымных і чорных,
першамайскі прызыў зазваніў.

Любіць ён, як і я, прабегчы
па зялёных размахах палёў.
Як і я — ён бунтар адвечны:
любіць сонны ламаць буралом...

А калі чырвонай істужкай
май аздобіць вясны блакіт,—
льецца лавай па вуліцах вузкіх,
буйным гневам на бруку кіпіць.

І тады — непакорны і хмуры —
ён ідзе напралом, як шквал.
І не сыну вясны і віхуры
пуцявіны сабе шукаць.

Але май!.. Сёння наша свята.
Пад напевы вясенніх звaноў
ты вясну сабе сёння сасватаў...
Я і ты — сягоння адно.

І на вуліцах, брудных і цесных,
загуляем мы — май і я,
бо у сінія майскія песні
спавілася душа мая.

*1924 г.*

ЛЕНІН

Разлівалася, плакала восень —
рассыпалася золатам лісцяў:
ой, не жыта — крыжы на пагосце
гэтак буйна ў той год разрасліся.

Сцены з дроту — ад мора да мора,
спахмурнеў палёў блакіт...
Толькі горад, рабочы горад
часам сцісне мацней кулакі.

* * *

Раптам:
— Даволі карыцца!..
Катаў — прыкладам з пляча!..
Гэта рабочы Піцер
ўздыбіў запал Ільіча.
Гэта Смольнага громы
скорчылі сэрца зямлі —
першы дакрэт Саўнаркома
сонца па свеце разліў.
Вырвалі Ленінскім словам,
разварушылі гняздо павукоў.
Гэта восень была вясною,
вясною новых вякоў.

* * *

Шлях вякоў туманамі спавіты;
іх бяздоння нельга запаліць...
Толькі з вечна цвёрдага граніту
нашым векам высечан Ільіч.

Сёння бунт рабоў магутным штормам
абудзіў усю зямную кулю,
бо Ільіч ангельскага шахцёра
парадніў і кітайскім цёмным кулі.

Сёння поруч з вёскаю зялёнай
дружна стаў бунтар адвечны — горад:
гэта Ленін згуртаваў калоны
Ленінскай мяцежнае кагорты.

Ад Дняпра да докаў Нью-Йорка,
да далёкіх ўсходніх акіянаў
ясна свеціць Ленінская зорка
ўсім прыгнечаным і ўсім загнаным.

І цяпер, хоць вечным сном скаваны
наш Ільіч у Маўзалеі,
вечна будзе рычагом паўстання
імя — ЛЕНІН.

*1925 г.*

# НАВАЛЬНІЦА

Праскакаў пад бяздоннем вякоў
навальніцы чырвоны конь.
Гэта іскры яго падкоў
запалілі стары закон.

Што ні крок — агонь і пажар,
і старому — у сэрца ўдар.
І закон — на канцы нажа.
І не страшны ні бог, ні цар.

Чырванее ўжо белы снег:
хто прачнуўся —
больш не засне.
І араб, і суданскі негр
заспявалі аб новай вясне.

Звонка ляснуў і стаў варштат.
Загудзеў рабочы квартал:
— З барыкадаў — ні кроку назад,
злітавання не дасць капітал!..

І на вуліцах б'е барабан:
барацьба, барацьба, барацьба!
Страшны суд затрубіла труба:
памірае ўсеўладны банк.

І гарадь навальніцы агні.
Свет стары да астатку згніў.
І вякі з верхавін перамід
паглядаюць на нашы дні.

Праскакаў над бяздоннем вякоў
навальніцы чырвоны конь.
Гэта іскры яго падкоў
запалілі стары закон.

*1925 г.*

## З ВЁСКІ

Вёска!
Што ёй? Што ёй дзеецца?
Вёска рушыць у новы век.
Бач —
замест лучыны ірдзее
радыё — сонца свет.

Ну і што ж!
Заплаціць падатак...
Палягчэла ўжо —
будзе лягчэй.
Хай павук у закураных хатках
павучынне сабе не пляце.

Зараслі дарожкі крывыя,
а простыя —
ўсе ў Савет.
Хай спявае поп даўгагрывы
малітвы глухой саве.

Бо сягоння дзядзькі ў Савеце
пішуць загады каравай рукой,
разганяе па полі вецер
дар рабочых —
сталёвы конь.

**Вёска.**
**Што ёй?**
**Што ёй дзеецца?**
**Вёска рушыць у новы век.**
**Бач —**
**заместа лучыны ірдзее**
**радыё — сонца свет.**

*1925 г.*

3 Зак. 4228

## КАМСАМОЛКА

Заклубіліся над рэчкаю асіны —
коцяць цені у зялёную ваду...
Паглядзі, матуля, вечар які сіні,
а ўсё роўна на вячоркі не пайду.

Шэфы з горада прывезлі падарункі —
для ячэйкі шмат прывезлі кніг...
А партрэты... А плакаты і малюнкі...
Зроду ты не бачыла такіх.

Хай дзяўчаты хоць да раніцы гуляюць —
нам даклад сягоння робіць аграном.
Скажа, як палепшыць ураджаі,
як змагацца з сушай і дажджом.

А па сходзе сабяромся дружным хорам.
Песню буйную нікому не спыніць.
Ах, як пальцы лёгка ходзяць у Ягора
і тальянка як Ягорава звініць.

Заклубіліся над рэчкаю асіны,
цені коцяцца ў зялёную ваду.
Закачаўся вечар ціхі, сіні.
Я, матуля, на вячоркі не пайду.

*1925 г.*

## СЕЛЬКОР

Над ракой — туманная лагчына...
Два дзесяткі хат — старых грыбкоў...
Ой, згубіла пацеркі дзяўчына —
па траве рассыпалася кроў.

А у хаце, што з узорным ганкам,
нехта рот усмешкаю крывіў,
нехта чысціць рулю ржавай абразанкі
і змывае з рук сляды крыві.

Стала хатка над туманнаю лагчынай,
плача хатка тусклым агеньком;
там па сценах
блудзіць свет у павучынні:
хоча вырвацца праз мутнае акно.

Душаць змрокі слабы свет газніцы...
Замігала над ракой зара;
словы простыя на жоўтыя страніцы
выліваюцца з душы гаспадара.

На бяду гандлярскаму разгулу,
на бяду злачынцу-кулаку
панясуцца меткія, як кулі,
ураганам словы апякуць.

Можа, ў горадзе ў запальныя прызывы
перальюцца простыя радкі,
мо гандляр са злосці воўкам ўзвые,
і зубамі скрыпнуць кулакі.

Можа, ўночы у глухім завулку
абразанка гулка кашляне...
Пад кашулькай зрэбнай сэрца б'ецца гулка,
і Ільіч прыжмурыў вока на сцяне.

Аднаму забітаму на змену
стануць сотні новых змагароў...

. . . . . . . . . . . . . .

Мільганула цень па загуменнях —
па траве рассыпалася кроў.

*1925 г.*

## СКАРЫНА

*400-годдзю беларускага друку*

Не люблю, калі з роднай краіны
птушкі рвуцца ў далёкі вырай...
Я успомніў Францішка Скарыну,
што у Полацку княжацкім вырас.
Ужо няма такіх настрояў,
як былі калісь даўно,—
бо сягоння над новай Дзвіною
перакінуўся новы мост.
Што Дзвіна!.. Для яе ўсё роўна,
хто пяе над яе берагамі.
Не яна мужычую мову
аправіла ў гнуткі пергамент.
О, Францішак... Францішак Скарына,
што над гранкай друкарскаю гнуўся!..
Ведай, праца твая пакарыла
новы свет для сівой Беларусі!
Бо сягоння спяваюць баяны,
бо ужо разгарнуліся крыллі...
Перамогі вяселлем п'яныя,
мы успомнім Францішка Скарыну,
што радзіўся калісь над Дзвіною,
вандраваў над яе берагамі;
што аправіў мужычую мову
ў неўміраючы гнуткі пергамент.

*1925 г.*

# КАСТУСЬ КАЛІНОЎСКІ

Беларусі паўстаўшай слава,
Беларусі — ў пояс паклоны.
Хай мінулае цемра заслала —
а змагання не забыць ніколі.

Эх, Кастусь... Балоты памераў,
а ў лясах,
як у бацькавай хаце.
Беларусь табе паверыла —
за табою пайшла змагацца.

Беларусь — не царам маскоўскім,
Беларусь — не варшаўскім панам!
Зазвінелі ў лесе бярозкі,
дуб стары галаву падняў.

Забуяніла ў полі рэхам:
— За мужычую праўду — у бой!..
Не Ілля па хмарах праехаў,
не Пятро зазваніў булавой...

А пасля — астрожныя краты...
Што з таго, што жыцця не стане.
Тває слёзы важыць на караты:
— Залілі, загасілі паўстанне...

Скалыхнуўся натоўп на Лукішках;
— На Беларусі няма шляхты!..
Можа, кат успомніў за кілішкам,
як памёр мяцежнік пракляты.

Маліцца — не наша справа.
Кастуся мы папросту ўспомнім:
Беларусі паўстаўшай — слава,
Беларусі — ў пояс паклон.

*1925 г.*



Не сягоння было і не ўчора...
Ой, ды з раніцы плакалі гуслі...
Вандравала ліхое гора,
вандравала ў палёх Беларусі.
Госць няпрошаны, госць нязваны
нашы нівы таптаў нагой.
Помняць, помняць яшчэ партызаны
дзевяцьсот дваццаты год...
Не сягоння было і не ўчора,
бо сягоння загоены раны.
Ты не плач, Наваградскае ўзгор'е,
не журыся тугой саматканай:
кінуў дзень залатыя кроплі
над заводам, над полем, над лугам...
Кастуся Каліноўскага покліч
сёння зноў —
ад Вяллі да Буга.
Выйдуць войска сярмяжнага ўзводы,
выйдуць важыць жыццё і смерць...
Дык гучней гудзіце, заводы,
каб нудою жыцця не мераць...
Былі дні, што здаваліся вечарам:
ой, ды ранне з крывавай расой...
Беларусь, твой стан пакалечаны
сёння новаю зззяе красой...

Бо сягоння гарапь успаміны,
бо сягоння загоены раны...
Што было — назаўсёды згінула
і з магілы ніколі не ўстане.

*1925 г.*

* * *

За маім акном — абрывы,
а на дне іх — пыльны брук.
Ў дротах мечацца пужліва
сонца — вогненны павук.
Ліжа жоўтыя камені
ценяў шэрая кайма —
звонка ляскае аб землю
іскрай звонкаю трамвай...
Ах, я знаю!.. Звонкім гулам
ўспеняць раніцу гудкі,
загудзіць завод, як вулей,
запыхцяць рухавікі...
Гэй, далёкія палеткі!..
Над ракой сутулы клён!..
Наш пасеў жалезных кветак
забуяніў над зямлёй...
Можа, заўтра паравозы
загудзяць паміж лясоў,
можа, звякне вербалоззе
намі зробленай касой...
За маім акном — абрывы,
пад балконам скача цень...
Тут вясною гаварлівай
сіні клён не расцвіце.

Не запеніць тут адценняў
жаўтатканая трава...
Звонка ляскае аб зямлю
векам будучым трамвай.

*1925 г.*

* * *

Цаліну алавяных хмар
скрозь прарэзалі сінія жылкі...
Можа, думак смутных няма?
Можа, гэта — толькі туман
над непапраўленай памылкай?..

Хай імжаць срабрыстыя кроплі.
Ты бяздонне хмар не кляні —
загудзяць па блакітных тропах,
зазвіняць сталёвыя крокі —
праскачу я на белым кані.

*1925 г.*

* * *

**Камень ляжаў пры дарозе,**
**халодным абсыпаны жвірам.**
**— Гэй, не спыняйся, таварыш,**
**бо каменем ляжаш, як я!..**
**Тут разышліся дарогі на поўдзень,**
**на ўсход і на захад —**
**смела адну выбірай і ніколі з яе не сыходзь.**

*1925 г.*

* * *

**Бы ў моры човен без вясла,**
**Ў жыцці туляласл дзяўчына.**
**Глядзі, без часу так загінеш,**
**бы ў моры човен без вясла.**

*1925 г.*

* * *

Заблудзіла зялёная зорка —
атуманіў яе сусвет...
У зарніц залатой паласе
заблудзіла зялёная зорка.

І вандруе ў срабрыстай расе,
і шукае дарогі ў змроку...
Заблудзіла зялёная зорка —
атуманіў яе сусвет.

*1925 г.*

* * *

**Мятнуўся небасхіл пяруном сінякрылым**
**і дуб, магутны дуб агнём пацалаваў...**
**І пушча пошчакам наўкол загаварыла,**
**і раскалолася у дуба галава...**
**І дуб упаў. І воч крылом сваім прыкрыла**
**і абнялася з ім зялёная трава...**
**І дрэвы плакалі. Не бачылі яны,**
**што усярэдзіне той дуб даўно ўжо згніў.**

*1925 г.*

* * *

**У музеі залатую бранзалетку**
**я бачыў за празрыстым шклом —**
**яе пад старажытным курганом,**
**пазелянеўшую, знайшлі малыя дзеці.**

**І ў тыя дні раслі на полі кветкі...**
**І ланцужком, сатканым з васількоў,**
**стары мастак прывычнаю рукой**
**аздобіў залатую бранзалетку.**

**Мастацкі дух ніколі не памрэ.**
**Не пахаваць яго пад курганамі,**
**не вычарпаць гадамі і вякамі.**

**Яму ў агні пякельным не згарэць.**
**Ён вырвецца з багны разводдзем буйных рэк**
**і загарыцца зноў бліскучымі агнямі.**

*1925 г.*

* * *

I ў нязнанай цьмянай далі словаў новых мы шукалі,
словаў новых мы шукалі і не здолелі знайсці...
А ў жытнёвым у прасторы рассыпалі песні зоры,
рассыпалі песні зоры каля возера ў трысці.
І не думалі ніколі, што у нашай моцы доля,
што у нашай моцы доля і не вырвецца ад нас;
не магло нам і прысніцца —
нашых думак калясніца,
нашых думак калясніца — гэта свету апаяс.
Хто ж казаў, што ў цьмянай далі
словаў новых мы шукалі,
словаў новых мы шукалі і не здолелі знайсці?
Новы дзень не за гарамі. Наша доля будзе з намі,
наша доля будзе з намі днямі яснымі цвісці.

*1925 г.*

## ЗАПЛЯЦІ ЗАЛАТУЮ КАСУ

Запляці залатую касу.
Выйдзі ў сад і вясне пакланіся.
Можа, ўспомніць былую красу
лістапада пажоўклае лісце...
Запляці залатую касу.

Дні і ночы развеюць туман...
На балоты, на росы развеюць...
Сож і Гомель!..
Краіна мая!..
Паглядзі, як зара ружавее...
Дні і ночы развеюць туман.

Так было...
Дык ці ж будзе так?..
Чуў я песні і казкі чуў я.
Бачыў я тваіх рэк сінь і сталь,
думаў думу з табой залатую...
Так было, дык ці ж будзе так?

Праз палі, праз нізіны і ўзвышшы,
праз кудлатую сінь лясоў,
бачу, як навальнічыць выйшаў
з берагоў крутарогіх Сож
праз палі, праз нізіны і ўзвышшы.

**Вецер, вецер! Рабінавы сум**
**над старым, над чужым і над новым...**
**Запляці ж залатую касу,**
**выйдзі ў поле спаткацца з вясною...**
**Вецер, вецер! Рабінавы сум.**

**Сож і Гомель!.. Краіна мая!..**
**Песням — шыр!.. Палынам — раздолле...**
**Разальюся песнямі я**
**пра тваю неапетую долю...**
**Сож і Гомель!.. Краіна мая!**

**Запляці залатую касу,**
**выйдзі ў свет і вясне пакланіся.**
**Можа, ўспомніць былую красу**
**лістапада пажоўклае лісце...**
**Запляці залатую касу.**

*1926 г.*

## АСЫПАЕ ЧЭРВЕНЬ БЕЛЫ САД

Асыпае чэрвень белы сад.
Сок калінавы лугі апаясаў...
Глянь, як раніцы чырвонае віно
срэбраногія бярозкі заліло!

Разважалі — быць нам ці не быць,
шмат зрабілі — трэба шмат яшчэ зрабіць...
Стаў на варце адзінокай сіні клён;
ўсім — і блізкім, і далёкім —
наш паклон.

Прывітанне шчыра — ад душы...
Сіл няма такіх, каб нас перадушыць!
Мора пенай разаб'ецца аб граніт —
хай жа кажуць, што ні мэты, ні граніц.

Заплятайцеся, пралескі, у вянок —
плешча радасці чырвонае віно.
Будзе вецер сівагрывы варажыць
пра свае і пра чужыя рубяжы.

Што нам пацеркі з старых рабін?
Можам самі сабе сцежку церабіць;
хопіць сілы для чужых і для сваіх,
каб сабою перамогу засланіць.

Будзе праўда [redacted] тым, хто перамог,
пераможанаму — крыўда і ярмо...
Ой ты, клён сінегаловы, стройны клён,
па-над возерам празрыстым, быццам шкло!

Асыпае чэрвень белы сад.
Сок калінавы лугі апаясаў...
Нашай раніцы чырвонае віно
срэбраногія бярозкі заліло.

*1927 г.*

## ЎСЁ АДДАМ ЗАЛАТОМУ ЖЫЦЦЮ Я

Ўсё аддам залатому жыццю я
для другіх гадзін...
Бачыць сэрца ўсё і чуе —
маладое нашто маладзіць?..

Ад сваіх, ад чужых раздарожжаў
я іду далей...
Шмат напеваў у нас прыгожых,
а хацелася б весялей.

Вось і ўсё... За часінай часіна —
гэтак дзень за днём.
Бач, як раніца закаласіла!..
Дык пяўжо ж цяпер мы заснём?

І таму, каго дзень не хвалюе,
песні гэтакай не нарадзіць.
Ўсё аддам залатому жыццю я
для другіх гадзін.

*1927 г.*

## ВЕЖА

Заснула вежа. Што ёй сніцца?..
Стаіць панурая, як здань.
Была турма тут ці званіца —
хто мог бы гэта адгадаць?..

А сівы час наўкола бродзіць,
як крок гадзін, як бег хвілін...
І незлічоныя стагоддзі
на шэрым камені ляглі.

Вякі стаялі без работы —
гняздо легенд і кажаноў...

. . . . . . . . . . . . .

А сёння людзі ў цяжкіх ботах
па сходах тупаюць ізноў.

Спавілі вежу дзіўным строем:
тут не разблыталі б канцы
ні скандынаўскія героі,
ні царгародскія купцы.

І сёння к вежы прывязалі
драты ўстрывожаную даль...
О, прадзеды, каб вы пазналі
антэны стынучую сталь!

**Вам не паняць, што ваша вежа,**
**знайшоўшы працу пад канец,**
**збірае гоманы з бязмежжа**
**на свой зіяючы вянец.**

*1928 г.*

## МАШЫНІСТ

Прыйшлі дахаты позна ўночы.
Ўзбудзілі:
— Весці паравоз!..
Што скажа ён, стары рабочы,
супроць загаду і пагроз?

Няроўны свет ліюць паходні
на рад наёжаных штыкоў.
І качагар сказаў:
— Сягоння
ў паход на голых мужыкоў...

— Эх, каб была тут наша сіла...
Далі б напэўна добры толк...
У полі бура галасіла
І скавытала, быццам воўк.

* * *

Машына ўздрыгвае на стыках,
хвіліна — роўна дзве вярсты...
У думе машыніст вялікай
над рэгулятарам застыў.

Драты звіняць, драты свіргочуць,
згінае рэйкі паравоз...

О, студня срэбраныя ночы
і ў белым саване мароз.

Маўчыць стары.
Праз шум, праз лёскат
далёка думкі пацяклі —
туды, дзе спіць старая вёска
ў вязьме няроўных каляін.

...На вузкім полі тчэ араты
аснову нівы залатой.
Страха дзіравая над хатай,
а ў хаце смецце, бруд і гной...

О, іскр апалавых маніста,
стук шасцярні і шум катла.
Ці доўга ў сэрцы машыніста
старой крыві заклекатаць?..

Ў вагоне штабным — афіцэры:
шмат працы заўтра — карны полк.
І вось паміж мундзіраў шэрых
расцвіў, як луг, зялёны стол...

І раптам...
Што гэта?
З разбегу
цягнік у голым полі стаў...
Бляды ад страху ці ад снегу,
замітусіўся ад'ютант.

Бягом, бягом!
Да паравоза...
Мароз — не трапіць зуб на зуб.
А машыніст на ўсе пагрозы
нібы адсек — не павязу!

Хто правы тут, хто вінаваты —
другія ломяць хай мазгі...
Але за дваццаць год я катаў
яшчэ ні разу не вазіў...

Палкоўнік у трывозе:
— Здрада!..
Калі не дойдзем мы да дня,
дык гэты зброд з мяцежнай банды
паспее шлях нам пераняць.

* * *

Завея носіцца са свістам.
Хто спыніць вольны ветру бег?
І стыне цела машыніста
над паравозам на трубе.
І вочы мёртвыя упарта
глядзяць з надзеяю ўпярод,
дзе бунтароў чырвоных варта
на рэйках ставіць кулямёт.

*1928 г.*

## ТРЫЦЦАЦЬ ПЯЦЬ...

Ціха так,
ціха так,
ціха так кругом.
У полі бліснуў і схаваўся агонь.
Змрок чорна-сіні да ніў прынік.
Іскрамі хрысціць палі цягнік.
Цемра стулілася, быццам звер;
дзесьці недалёка пажар і смерць.
Стогнуць, скрыгочуць вагон аб вагон;
ў полі недалёкім бліснуў агонь...
У горадзе ворагі, ў горадзе страх:
можа, чыя там загіне сястра,
можа, чыя маці рве валасы,
але ворагам не скажа, дзе падзеўся сын...
Іскрамі даль ўскаласіў цягнік,
семафор зялёны мігнуў і знік...
Ціха так,
ціха так —
толькі пары свіст...
Не спыняйся ў чорным полі, машыніст!..

* * *

І ў ноч глухую іх выводзілі з вагонаў.
Скрозь змрок і цемнату зірнулі ў вочы ім

штыкоў халодных бляск, і прозалаць пагонаў,
і злосці дзікай ручаі.
Пачулі злоснае: «Усе сябры Саветаў
і камуністыя, наперад — пяць шагоў!..»
Іх выйшла трыццаць пяць, туды, дзе пасмы свету
находні сеялі кругом.
О, рэвалюцыя!..
Шляхі твае хто змерыць?
І чалавек адзін — пылінка прад табой...
Ёсць сіла гэткая — мацней жыцця і смерці,
яе б не змог ні страх, ні боль.
Калі пранеслася каманда афіцэра,
кароткая і злая — «расстраляць»,—
ўсе твары змрок пакрыў заслонай чорна-шэрай
свайго шырокага крыла.
Іх трыццаць пяць было, рабочых-камунараў...
І першы з сумам вочы ўдаль падняў:
— Хай стане наша смерць маленькаю ахвярай
для надыходзячага дня!..
Схавала ноч палаючыя словы.
І так сказаў другі: — Не шкода паміраць!..
На гэтых вось шляхах, дзе зложым мы галовы,
і ворагаў загіне раць!..
І ўстаў апошні з іх — дужэйшы і малодшы:
— Рэспубліка Саветаў хай жыве!
Адважна глянем мы драпежнікам у вочы —
хай сэрцы стануць агнявей.

* * *

Белая раніца. Сівы туман.
Ворага ліхога і следу няма.
Глянула сонца бліскучым кальцом.
Смутныя твары чырвоных байцоў.
Там пры дарозе спакойна спяць
сном непрабудным трыццаць пяць:
вусны зацяты, застыла кроў,
іней трупы пакрыў серабром...
Мёртвымі вочамі моўчкі глядзяць
ў залатую будучыню трыццаць пяць.

*1928 г.*

## КАМЯНІЦА

Гэты дзень пракляў глухі завулак —
для завулка страшны час прабіў.
Як манашкі, заламалі рукі
хаткі — патрухнелыя грыбы.

Муляры — народ такі вясёлы:
малаток ды песня — іх сябры.
Загудзелі людзі, нібы пчолы,—
то завулка прадсмяротны крык.

Паляцелі з ног старыя хаткі;
разнясліся з крыўдай груганы:
— Вось яны, праклятыя парадкі!..
— Вось яны, цяперашнія дні!..

Навязлі каменняў, белай вапны;
цэлы дзень працуюць муляры.
На муры скідаюць вокам сквапным
патрухнелых хат гаспадары...

— Нам бы, мабыць, гэтакіх палацаў
не пабачыць як сваіх вушэй!..
Муляры рытмуюць песню з працай,
і муры растуць штодня вышэй.

І ўзрасла надзіва камяніца.
Цешыць сэрца свежасць белых сцен.
Нават і суседняя званіца
перад ёю затанула ў цень.

Палілася сіла з жыл мядзяных,
пацякла з паверха на паверх.
І ліхтар кульгавы жоўтай плямай
перад новым светам ціха змерк.

Замільгалі ціхія газніцы
з шэрых хатак, нізкіх і сляпых.
Што яны прад стройнай камяніцай?
Як прад імі — прыдарожны пыл!..
Прыйдзе час, і з прыдарожным пылам
попелам рассыплюцца яны,
бо буяней кроў ў мядзяных жылах,
бо цвярдзейшы крок у камяніц!

І, як цені, у глухім завулку
дажываюць свой нядоўгі век,
покуль муляр з малаточкам гулкім
ім ў труну заб’е апошні цвік.

*1928 г.*

5 Зак. 4228

## ВЯСНА 1932 ГОДА

Прыйшла.
Затрымцела ртуццю раўчукоў,
засвіргатала сплётам кропель.
Правяла зіхатлівы шлях
праз Азію,
Амерыку
і Еўропу.
З усходу за ёю шумеў акіян,
і сонца з вогненных восцяў
праектавала
на сіні экран
сілуэты браняносцаў.
За ёю ляцелі гудліваю зграяй
дзюбатыя бамбавозы.

Кіпела Маньчжурыя,
руіны Шанхаю
курэлі маўкліва і грозна.
За ёю рычаў беспрацоўны Дэтройт,
і, ад берага да берага,
разяўляла
галодны рот
квітнеючая Амерыка.
Не знесці гангрэны крызісу класу
з крэйгераўскімі нервамі:

ужо ў рэвалюцыі засталася
лішняя куля ў рэзерве;
ужо і Нямеччыны ціхенькае багна
чырванню ўскаламучана:
пяць мільёнаў рук, як адна,
узняліся над ёю
за рэвалюцыю.
І вось адусюль бразгоча зброя.
Ледаход гісторыі
палі мастоў струхнелых скрануў;
стрэлка сусветнага анероіда
пахіснулася на вайну.
Шуміць акіян.
Чорныя хвалі высока ўзняліся,
калоцяцца пенаю апантанаю
ў скалы чырвонай выспы.
Зубы і іклы.
Танкі. Гарматы. Браневікі. Акопы.
Чаму такая вялікая роспач?
Прыйшла.
Мільёны зрэнак
прашыла сонечнымі ніткамі.
Прынесла строгі і стройны план —
трэцяя бальшавіцкая.
Нітуе энергію,
вядзе напралом,
выцягваецца ў чацвёрты год
апошні, напорны,
выдзюбліваецца калом
ворагу ў горла.

Курыць Магнітная,
гудзіць Сталінград,
Дняпровыя ўпрэжаны воды
у панарад
другой пяцігодкі.
Курчацца ў кузні калгаснай плугі —
выйдуць адтуль маладымі!
Будуць расці ў дыяграмах кругі
красавіковага ўздыму.
І калі б вораг наважыў цяпер
па-над савецкімі хмарамі ўзняцца,—
грымне па ім,
узлятаючы ўверх,
крывая суцэльнай калектывізацыі.
У гэту вясну мільёны рук
свет налева завернуць.
Трэба кожны напружаны рух
накіраваць,
разлічыць,
размераць.
Трэба праверыць,
ці ўсе на мясцох,
ці ўсё і ўсюды як трэба,
каб падала зерне
не ў посны пясок,
а ў сытую, дужую глебу.
Трэба, каб зубы плугоў, трактароў
эпідэрму зямлі аж да жылаў прагрызлі,
каб уліць і яе земляную кроў
у юныя жылы сацыялізма.

Тэмпы,
тэхніку — шырэй і глыбей;
умець працаваць і за працу адказваць.
Віхуру энергіі ў бальшавіцкай сяўбе
памножыць на ўраган энтузіязму.
Каб не прапала праца дарма,
каб не зраслася з цаглінай цагліна,
хай глоткі комінаў
і жэрлы гармат
за ворагам сочаць пільна.
Вораг знадворку
вачыма грызе,
вораг з кутка
зубамі скрыгоча.
Каб не праспаць іх, не пpаглядзець,
хай ліхтарамі палаюць вочы.
Хібны крок,
брак,
недасеў,
зрыў,
безгаспадарчасць і абязлічка —
гэта ўсё роўна што без барацьбы
ворагу здаць пазіцыі!..
Прыйшла яна
і дзень ад дня
шырыцца па неабсяжных абшарах.
Будзе яна, будзе яна
бальшавіцкаю ўдарнаю.

*1932 г.*

## ЗЯМЛЯ

Закапаная праз вякі
магнатамі і кулакамі,
парэзаная на шматкі
раскваплецымі пазурамі,
акропленая, як віном,
суровым паднявольным потам,
яна карміла палыном
рабоў за працу і пяшчоту.
Пакуль убогая саха
крамяныя ўзрывала грудзі,
яна чакала жаніха,
што вызваліць яе і пабудзіць.

І ён прыйшоў да сонных скіб,
сарваў з зямлі рукою смелай
вянцы абшарніцкіх сядзіб,
вязьмо нявольніцкіх надзелаў.
Ад грому войн, ад свісту куль
прыйшоў ён, каб надаць адразу
ў мужыцкі нехлямяжы пульс
рабочага энтузіязму.
Чацвёрты год вялікі план
стальной энергіяй крынічыць.
І зноў прачнулася зямля
ў праменнях трэцяй бальшавіцкай.

Румянцам чорным грае твар —
яна ўздыхае шумам радым,
калі ёй працу сваю ў дар
нясуць калгасныя брыгады.

У стромкіх тлустых ручаях —
ў глыбокіх шрамах чарназёму
ізноў — усіх і нічыя —
яна набракне буйным плёнам.

Зірні, таварыш, навакол
руплівым гаспадарскім вокам:
ці востры плуг, ці сыты конь,
ці вораг не засеў дзе збоку.

Зямля не любіць кволых рук,
ўзбудзіць яе —
цяжкая справа:
не бойся ж, браце, гнуцца ў крук —
ты выпрастацца маеш права!

Ты толькі ў заўтрашняе глянь!
Узнятая напорам ярым,
ўвесь свет калгасная ралля
да іншых дзён вядзе, таварыш!

Штурхнулі ў карак гультая,
вазьмі за горла жываглота,
і праца ўздымецца твая
удзячнай земляной пяшчотай.

**Хай болей ад усіх часоў**
**блісне пятнаццаты Кастрычнік,**
**і бронзай жытніх каласоў,**
**і ясным золатам пшаніцы.**

*1932 г.*

## ШАКАЛЫ

Як толькі над жоўтай пустыняй
ноч уздымаецца чорнай навалай,
на выдмы выходзяць з лагчынаў,
ашчэрыўшы зубы, шакалы.
Шукаюць бяззубую слабасць,
пільнуюць зялёную боязь
і рады смярдзючыя зяпы
хоць падлай напоўніць без бою.
Калі ж чалавека ці звера
спаткаць давядзецца жывога,—
віскліваая пражэрнасць
хаваецца ў шпаркія ногі...

...Калі Сунгара засынае
і спяць яшчэ тыгры ў чаротах,
цень нейкі тады выпаўзае
з зацішнае падваротні.
За ім другі... трэці... бясконца...
Шагаюць старожка і глуха.
Яны чалавеку — японцу —
пароль ціха шэпчуць на вуха.
Ўспаўзаюць на насып высокі,
згінаюцца вухам да рэйкаў:
па рэйках здалёку, здалёку
даносіцца водгалас нейкі...

Вось месяц выходзіць з-за хмары
і кідае бледныя плямы
на шэрыя хітрыя твары
і на пагоны з арламі.
І, нешта паклаўшы на шпалы,
спускаюцца з насыпу цені.

Адзін за адным,
як шакалы,
знікаюць кудысьці у цемень.
Яшчэ прабяжыць паўгадзіны.
Па стыках цягнік загрукоча...
І выбух высока уздыме
бясшталтнае, рванае клочча.
Пакруцяцца рэйкі вужамі,
на дыбы вагоны пастануць;
за тулавамі, за нагамі
галовы памчацца фантанам.
Назаўтра ў бульварных газетах
завыюць начныя героі:
«Саветы... Саветы... Саветы...
Да зброі, панове, да зброі!..»
Пасля ганарар свой паспешна
прап'юць у начных рэстаранах...
А ў Токіо пойдзе дэпеша
з тэкстам зашыфраваным.
Куточкамі губ дыпламаты
усмешку зласлівую скрываць,
пратэстам шматмоўным, гарматным
па свеце рабочыя грымнуць.

У штабе пагляд генерала
на карце, дзе крыжык чырвоны,
убачыць, дзе людзі і шпалы
ўзляталі каскадам шалёным.
І волава цьмяных вагніцаў
ў апошнюю кропку упрэцца:
прымроіцца ім на граніцы
вінтоўка чырвонаармейца;
прымроіцца грукат заводаў,
прымрояцца скарбы капальняў,
і зоркі Далёкаусходняй
прымрояцца генералу.
Памножацца зоркі без ліку
ў вачах, прарочачы згубу,
і, нібы шакалавы іклы,
бяссільна заляскаюць зубы.
І голас краіны рабочай
дамчыцца з бяскрайняе далі:
— Чужое зямлі мы не хочам —
сваёй не саступім ні цалі.

*1932 г.*

## ПЦІЧ

Ў балота ўрэзалася Пціч,
шырока поймы разгарнула.
Тут часам птушка праляціць,
а зверу не знайсці прытулку.

Павольна цягнецца рака
ў цяжкім гарнітуры балота:
яе пільнуе асака,
яе ахоўваюць чароты.

Але, зглынаючы засеў
тысячагоднягa спакою,
далоні жорсткія шасэ
мастом спляліся над ракою.

Пяюць па трасе малаткі,
усё бліжэй,
усё імклівей —
яны ўбіваюць у вякі
тысячагоднюю маўклівасць.

Каму было б тут галасіць?
Пад сонечнаю пазалотай
маўчалі дальнія лясы —
васалы вечныя балота.

Ім не сарвацца, не ўцячы:
маўклівасць — доля іх глухая.
...І з пасівелых хваль Пцічы
ахрыплы голас далятае:

— Мяне не ўцяць і не ўсушыць!
Я гэты край апанавала!
Жыла, жыве і будзе жыць
мая зялёная навала.

Я помню прадзеда твайго:
загнаны горам і турботай,
сюды прыйшоў ён,
                    і яго
схавала я ў сваіх чаротах.

Касою твой гарэзны дзед
парушыў скарб майго спакою —
расплыўся знак яго і след
у глыбіні пад асакою.

І бацька твой пайшоў на дно.
І човен згніў, згнілі і вёслы:
і берагоў маіх радно
яго адпела безгалоссем.

І сын твой прыйдзе да мяне
ад долі жорсткай і нясытай
і супакоіцца ў багне,
маім туманам апавіты.

Як тысячу гадоў назад,
я буду несці смерць наўкола,
і подых мой вастрэй нажа
ўпівацьмецца ў людское горла.

І будуць цісну́цца палі,
далёка нікацьмуць дарогі!
Мяне вы не перамаглі
і не дажыць вам перамогі.

Вы хочаце бліжэй і лепш,
а будзе так, як я захочу!

Я слухаю — ўзрастае гнеў,
і спазмы сцягваюць горла,
і кроў бунтуецца ўва мне
непераможна і напорна.

— За дзеда, прадзеда свайго
не пракляну цябе адну я:
як прад табою толькі горб
яны ўвесь час пакорна гнулі.

Хто меў свой кут і дабрабыт,
той жыў з табою ў добрым ладзе.
На згубу йшлі яго рабы —
ішоў мой дзед, ішоў мой прадзед.

Затым вось у сваёй кляцьбе
не абмінаю я з праклёнам

таго, хто, ў лютай барацьбе
дабіты, падыхае сёння.

А сын мой тут не затане.
Ён прыйдзе, мужны, сілы поўны,
і па старой тваёй спіне
пагоніць ён цяжкія чоўны,
засее берагі твае
вясёлым жытам і пшаніцай,
дарогамі перавіе
твае далёкія граніцы.
Табе ад долі не ўцячы!
Ты будзеш нашай, Пціч старая!..

І з пасівелых хваль Пцічы
ахрыплы голас далятае:
— Таго табе не дачакаць.
Дый не было таго спрадвеку,
каб пакарылася рака
нікчэмнай сіле чалавека.

Мяне рукамі не ўбярэш
і за касу мяне не ўхопіш.
Ніякай сілай не прарвеш
мае дрыгвяныя акопы.

Мяне не ўцяць і не ўсушыць,—
я гэты край апанавала!
Жыла, жыве і будзе жыць
мая зялёная навала.

Мой гнеў паволі адышоў
і замяніўся на пагарду.
Які надрыў! Якая жоўць!
Якая нэндзная упартасць!

— Гэй, гэй, бабулька, не сычы!
Юнацтва двойчы не прыходзіць.
Хай славяць совы ды сычы
тваёй магутнасці стагоддзі.

Тваё было, ды адцвіло,
а наша толькі расцвітае.
Тваіх балот гнілых сіло
нам болей пагражаць не стане.

Мой прадзед, дзед і бацька мой
таму знайшлі сабе магілу,
што выйшлі дужацца з табой
з адною чалавечай сілай.

А нашы дні —
не тыя дні:
другая доля павялася:
яны выходзілі адны,
а мы выходзім сілай класа.

І ўсюды ў нашай барацьбе
за намі будзе перамога,
бо мы будуем для сябе,
а не для некага другога.

Хапае сілы ў нас на бой,
мы іх падвоім і патроім,
але каптан зялёны твой
як нам патрэбна
перакроім.

Стальныя ніткі дрэнажоў
мы звяжам чыстым пераплётам,
і ты сама гнілую жоўць
смактацьмеш са свайго балота.

А трэба будзе — і табе
ад нас нікуды не схавацца:
мы вычысцім і аскрабем
са дна тваю гнілую нацвіль.

Ў граніт ушчымім берагі
і сталлю пазразаем мелі.
Мы шлях табе далі б другі,
калі б патрэбу ў гэтым мелі.

Крутая наша пара
не прызнае размовы доўгай:
спытайся ў дзядзькі у Дняпра,
у кума Дона, цёткі Волгі.

Маўчы, бабулька, не сычы!
Твой час прыйшоў, наш дзед гукае,
і з пасівелых хваль Пцічы
ахрыплы голас далятае:

— Ідзіце прэч, ідзіце ўсе!
Усё затоне,
ўсё загіне.
Я рассмакчу твае шасэ,
я затаплю твае машыны.

Я атручу лясы, палі,
і зверыну, і чалавека;
не ўблагаць, не ўмаліць
неўблаганую спрадвеку.

Мяне не ўцяць і не ўсушыць —
[redacted] гэты край апанавала!
Жыла, жыве і будзе жыць
мая зялёная навала.

Нястрымны пераможны смех
мае напружвае жылы:
— Табе, сівая, пэўна, ў сне
надвое бабка зваражыла...

Маўчы, бабулька, не сычы!
Нікога сёння не настрашыш.
Табе галоў нам не ссячы,
не распарошыць волі нашай.

Бо мы шагаем праз вякі
па вострых і калючых пожнях,
бо нас вядуць бальшавікі —
наш авангард непераможны.

Маўчы, бабулька, не сычы!
Табе — канец, а нам — пачатак!..
Ад пасівелых хваль Пцічы
ўздымаецца туман кашлаты:
агортывае берагі,
агортывае узбярэжжа,
закручваецца у кругі,
ўздымаецца вычварнай вежай...

Але, зглынаючы засеў
тысячагодняга спакою,
далоні жорсткія шасэ
мастом спляліся над ракою.

І далятаюць з-за ракі,
з-за столак сінечы туману,
аўтамабільныя гудкі —
сігналы заўтрашняга рання.

*1932 г.*

# ДЗЯЎЧЫНА

Твой пакойчык, прытульны, спакойны і белы,
пахне цёплай пяшчотай нетрывожаных дзён.
Нібы жнівеньскі сад, духам яблыкаў спелых,
пахам моцных антонавак радуе ён.

Каля люстра — падручнік англійскае мовы,
пара сшыткаў і некалькі строгіх тамоў:
гэта ўсё так прывычна і кожны раз нова,
як чарнявая шапка тваіх валасоў.

У цябе светлы розум і моцнае сэрца.
Што ў табе ад былых, ад забытых часоў?
Як цябе уявіць без партрэтаў на сценцы?
Як цябе уявіць без разважлівых слоў?

Маладая, як майскае сонца, дзяўчына,
нібы сонечны зайчык ў блакітных лугах —
ты размову вядзеш самавіта і чынна,
і вясёлыя знічкі гараць у вачах.

Ўся гарыш ты святлом агнявой нашай эры,
калі горы грымяць, калі зоры пяюць,
калі радасць высокую поўнаю мерай
людзі новыя з новай крыніцы бяруць,

калі шчасце — не грэх,
прыгажосць — не загана,
калі праца, як песня, ўстае над зямлёй,
ты умееш злучыць агнявое каханне
з незвычайнаю мудрасцю справы сваёй.

Ўсюды ты — на заводзе, на пожні і ў клубе.
На вучоным дакладзе і ў майскіх садах
я адразу пазнаю пунсовыя губы
і чырвоны значок на высокіх грудзях.

Калі ж ты свае вочы, як зоры, запаліш,
бляск у сэрца сыходзіць да самага дна,
пачуццё залівае шырокаю хваляй
бераг дружбы і шчырасці светлага дня.

І жыццё, і вясна, і маё захапленне —
гэта ўсё для цябе, гэта ўсё прад табой,
мой таварыш, дзяўчына майго пакалення,
мой таварыш, дзяўчына краіны маёй.

*1935 г.*

6 Зак. 4228

## ПАЛЕСКАЕ ЛЕТА

Там, дзе прэў у дрыгве барадаты алешнік,
дзе лясун з балацянікам дружбу вадзіў,
дзе ніхто не праходзіў —
ні конны, ні пешы,
у краіне легенд, забабонаў і дзіў;

дзе быў поп за цара, аураднік за бога,
дзе з мякінаю хлеб елі ў смак бednякі —
пра калгаснае поле пабегла дарога,
праз даўнейшыя багны бягуць ручайкі.

Поўным цяжкім калоссем схіляецца жыта,
нежна звоніць авёс, нібы дождж залаты,
натапырыў ячмень свае вусы сярдзіта,
і пшаніца калышацца станам крутым.

У калгас з прывітаннем з'яўляецца вечар,
сыпле макі пунсовыя, кліча людзей.
Час дамоў, натаміліся рукі і плечы,
трэба сіл прызапасіць на заўтрашні дзень.

Вось пайшлі брыгадзіры ад хаты да хаты.
Час гарачы, і справа для кожнага ёсць.
У клубе вечар — гуляюць хлапцы і дзяўчаты,
ўспамінаюць старыя сваю маладосць.

Што ж успомніць?
Пра шчасце, якога не знал,
пра вяселлі, злавеснейшыя ад хаўтур,
ці пра кветкі, што век для другіх расцвіталі,
ці пра долю, цяжкую, як каменны мур?

У шалёнай дрыгве, ў зачараваным коле
дажывалі свой век між карчмой і царквой
і, спакойнага дня не пазнаўшы ніколі,
у магіле знаходзілі толькі спакой.

А цяпер у труне даўных дзён недабіткі,
ёсць скаромнае ў крупніку, ў кубле запас,
і пазношваны ўсе саматканыя світкі —
ў новых ботах сягоння выходзіць калгас.

Хто ж цяпер пашкадуе залатаных стрэшак?
Хіба толькі вар'ят або вораг які!
У вялікай краіне пчырэйшых усмешак
дружбай блізкай і дальняй жывуць беднякі...

І гармонік пяе, і дзяўчаты танцуюць.
На хвілінку у клуб заглянуў старшыня.
Эх, каб мець галаву не такую сівую —
з маладымі і ён бы гуляў даўдна.

Але часу няма, трэба рушыць дадому.
Дома справы чакаюць, газеты ляжаць,
ды заехаў дарогай таварыш з райкома —
нешта важнае, мусіць, ён мае сказаць.

Ён спяшыць і глядзіць
на калгасныя стайні,
ён на свірнах калгасных прабуе замкі.
Ў гэтым скарбе вялікіх агульных стараннаў
ўсюды след гаспадарскай руплівай рукі.

Можа, спіць вартаўнік, можа, курыць паціху,
можа, блудзіць чужы на калгасным двары —
бо ніколі не спіць неспадзеўнае ліха
і заўсёды чакае зручнейшай пары.

Дома людзі чакаюць: прыйшлі брыгадзіры
і таварыш з райкома сядзіць паміж іх.
У размове адкрытай, паважнай і шчырай
разважаюць аб дзеях і аб справах сваіх.

І таварыш з райкома іх жартам пужае,
што ў Палессі ім першымі болей не быць,
што у тэрмін яны не збяруць ураджаю
і суседзі ў жніве іх гатовы пабіць.

А хлапцы петушацца, нібыта напраўду,
навіваючы жартаў вясёлы клубок.
Яны знаюць сябе, жартаваць яны рады,
але месца свайго не здадуць ні на крок.

Гаспадыня дае малако і яешню —
хто з дарогі, хто з працы; размова ідзе:
кожны помніць багата выпадкаў нацешных,
кожны ведае многа цікавых людзей.

Старшыня замарыўся; зліпаюцца вочы,
расплываюцца словы вясёлых размоў.
Ўспамінаюцца зноў партызанскія ночы
і суровыя рапні бядняцкіх гадоў.

Так спакойна красуе жыццё маладое,
але добра знаёмы басц з цішынёй,
бо бываюць і ў буру часіны спакою
і напоўнены бурай бывае спакой.

Мець жалезныя рукі і пільныя вочы,
мець халодную волю і жаркі парыў
навучылі яго партызанскія ночы
і суровыя рапні юнацкай пары.

Заўтра працы па горла. Жніво началося.
Ён як свята — чарговы калгасны зажын.
Кожны год ён па-новаму сцеле калоссе
на дарогу да новых, нязнаных вяршынь.

Вось і золак. Ўздымаюцца людзі і песні,
як жар-птушка, гарыць-зіхаціць небакрай.
Спатыкае жаданага госця Палессе —
ўмалотны, калгасны залаты ураджай.

*1935 г.*

## ВЯСНА

Добры дзень, салавей!

З прывітаннем вясновым

ты вярнуўся ў багатыя нашы сады:
май ідзе па зямлі, па дарогах барвовых,
галасісты, як ты, і, як мы, малады.

Ён як першае шчасце ідзе, яснавокі,
ціхім бэзам струменяць яго вечары,—
быццам песня лунае ў блакіце высокім,
быццам сонца купаецца ў фарбах зары.

Скачуць галкі па тлуста нарэзаных скібах;
наліліся сады хмельным сокам зямлі,
і вясновых праменняў зіяючы выбух
свет асколкамі радасці скрозь запаліў.

Смачна пахне вясна — друг наш нежнагалосы!
Цёпла пахне вясна толькі ў нас, толькі нам,
наша доля дзяўчынаю светлавалосай
шчыра так усміхаецца нашым гадам.

Кроў сусветнай вясны наліла нашы жылы.
Калі ж грымне нягоды раптоўнае гул,
першы маршал краіны Клімент Варашылаў
зноў у стрэмя стальное паставіць нагу.

Лёгка нам усміхацца, адважным і дужым,
паміж гор нашых грозных і нашых марэй.
Па-другому цвітуць у садах нашых ружы,
па-другому для нас заспявай, салавей!

Мы чакалі цябе, мы і нашы нявесты,
маладыя пілоты, сівыя сяўцы.
Прасвішчы, празвіні сонца поўную вестку
пра вясну і пра май на чатыры канцы.

На чатыры вятры заспявай галасіста
пра вяселле, пра смех, пра палі і сады.
У краіне вясны, у краіне агністай,
друг наш звонкагалосы, як мы, малады.

*1936 г.*

## НА СТАНЦЫІ

Жыццё імчыцца ў даль, за семафоры,
дзе ціш палёў,
дзе гулкія лясы,
дзе сінню разатканыя прасторы
птушыныя калышуць галасы.

А тут, за вадакачкаю цыбатай,
ў балотцы жабы стогнуць цэлы дзень,
мычаць каровы, сцежкі пахнуць мятай,
ад ліп старых паўзе маўклівы цень.

Тут сонца колеру чырвонай медзі
на насыпах пад вечар зіхаціць;
ля будкі барадатыя суседзі
сышліся перад сном пагаманіць.

А на пероне ўвечары дзяўчаты
глядзяць прыветна ў вокны цягнікоў
і парамі вяртаюцца дахаты,
да звыклых кветак і нязвыклых сноў.

Калі ж лугі агорнуцца ў туманы,
маўклівасць лес напоўніць давідна,
дык будзе рэек сплёт адшліфаваны
гудзець, нібы басовая струна.

І калі будуць шпаркія вагоны
ля нас у даль бяскрайнюю імчаць,—
мы ведаем: на нашыя загоны
уважлівыя вочы з іх глядзяць.

Але як скажа час і нам падняцца,
дык, углядзеўшыся ў святло ці ў змрок,
мы ўбачым сотні гэткіх самых станцый
на дальняй трасе Мінск — Уладзівасток.

І нам дзяўчаты яснымі вачыма
са свежасцю семнаццаці гадоў
перададуць ад Мурманска да Крыма
прывет для незнаёмых сваякоў.

І мы памчымся з весткаю шчаслівай
праз гулкі лес, праз жоўтыя палі...
Мы не адны на станцыі маўклівай,
на цёплай нашай, сонечнай зямлі.

*1936 г.*

## ВАЙНА ЗА МІР

*(з паэмы)*

Як шоўк, зіхаціць вераснёвае ранне,
ідуць муляры на свае рыштаванні

І ў мяккіх наплывах разморанай гліны
складаюць радком за цаглінай цагліну.

Стук цэглы, рып дрэва, гамонка і крыкі
гучаць незвычайнаю нейкай музыкай.

І хто мае вушы, каб чуць,— той пачуе
выразна, як зноў навальніца бушуе.

Паслухай, як вецер вясёла заводзіць!
Зусім як у тым васемнаццатым годзе...

Здаецца, што зноў і платы ўсе, і хаты
пакрыты адным неадчэпным плакатам:

— Ці ты запісаўся на фронт дабравольцам?
Калонай няўрымснай прайшлі камсамольцы.

Ў газеце, ў вітрыне — чарговая зводка:
ўзнялося жыццё небывалай паводкай.

І мроіцца нават, што з могілак лезе
Калчак недабіты з калом і абрэзам!..

І зброя бразгоча, і песня шугае...
Так, зноў навальніца, але не такая!

Ў цагляных акопах ад золку да змерку
байцы здабываюць паверх за паверхам:

разважна, рупліва, з нямудрай прыладай
мууюць муры небывалага ладу.

...У іх пад нагамі —
на метр ці паўметра —
клён лісце страсае на радасць паэтам,

і восень лісты то пад хмары ўзмятае,
то тоўстым пластом па рыштках раскладае.

Няхай забаўляецца — час адцвітання.
Будынак таксама страсе рыштаванні

і злоснага снежня крутыя завеі,
дарма к яму стукацца будуць у дзверы.

Каўнер свой бетонны узняўшы высока,
з зімы будуць кпіць зіхатлівыя вокны,

а клён, як жабрак, каля каменнай брамы
даігрываць будзе сваю меладраму.

Цяпер яшчэ рана. Паветра густое.
Пульсуе жыццё, несупынна, нястомна:

ідуць муляры на свае рыштаванні,
бяруцца за працу пільней і старанней,

бо й гліна напеўнай мелодыяй дыша,
і цэгла спявае — «наперад і вышай»!

. . . . . . . . . . . . . . . . .

Разбягаецца дзятва са школ па хатах.
Сыплецца дажджом жамчужным смех.
Як кавалкі сонца, ззяюць вачаняты,
нібы спеў без слоў вясны вясне.

Гэткі порах хоць каго запаліць,
ў іх жыццё пульсуе, як вулкан;
і найбольшы з гэтых падшывальцаў
толькі з кніг чуў пра гарадавіка.

І пра час, што да астатку згінуў,
няўцямны для яго цяпер,
ён, як казку, слухае ўспаміны,
дзесяцігадовы малавер.

Не гуляў ён на крывавай трызне,
не кіпеў трывогай баявой.
Ён жа толькі пры сацыялізме
напаткаецца з сівізной...

Мір табе, ўзрастаючае племя!
На разбэшчанай, на згорбленай зямлі
будзеш першым вольным пакаленнем,
ні крыві, ні слёз не будзеш ліць.

Вам ужо не ведаць дзён суровых:
мы для вас кладзём да шчасця гаць.
Гэта наша справа — канчаткова
свет стары дабіць і пахаваць!

. . . . . . . . . . . . . . . . . . .

На фронт! На фронт! Не жыць у сутарэннях
будаўнікам і ўладарам зямлі!
Мы боль на свеце выпалем з карэннем,
затым і зброю ў рукі мы ўзялі.

Мы з цэглы замкаў, цэркваў і касцёлаў
ўзвядзём муры рабочых гарадоў,
зальём іх бляскам ясным і вясёлым,
перапляцём заслонамі садоў.

Мы урачыстасці агні запалім
і з нетутэйшых кветак запляцём
барвовыя вянкі па ўсіх кварталах,
каб ясна жыць і цешыцца жыццём.

Мы выкінулі з сонечных майстэрняў
калішняй паднявольнай працы гуж:
у працы нам не былыя церні
гадуюць парасткі чырвоных руж.

Няхай праца стане, ясным святам
яе хвіліны будуць для людзей,
а даўны горад, змрочны і пракляты,
як успамін перадамо ў музей;

перадамо ў музей, каб ўнукі знались,
ў якой нядолі дзеды іх жылі,
каб лад той бераглі і шанавалі,
што ў барацьбе ўзнялі мы на зямлі.

. . . . . . . . . . . . . .

Шынель, прастрэленая куляй,
адпачывае у кутку.
Другія справы агарнулі,
другія планы думкі ткуць.

Задачу вырашыць гарматай
было прасцей, было лягчэй.
Жыццё — вялікі матэматык —
вузлы тужэйшыя пляце.

Пад Перакопам у Данбасе
калісь загінуць быў ён рад,
бо знаў, што партыі і класа
спаўняе баявы загад.

Шумуе строма! Рушаць крыгі —
раструшчы іх, жыцця каваль!
Вінтоўку ён змяніў на кнігу,
каб навучыцца будаваць.

На фронце зноў ён... Бой няспынны...
Гарыць і ломіцца зямля,
і з ясных лічбаў, строгіх ліній
расце Камуны ясны план.

Ужо гудуць бетон і камень,
звініць ўстрывожаная сталь,
і перапоўнена гудкамі
зэлектрызованая даль.

І разварушаная вёска,
зламаўшы прадзедаўскі лад,
пах ладану і кроплі воску
зганяе з друзлага чала.

За вокнамі гусцее поўнач,—
няхай гусцее: ноччу, днём
баец ўчарайшы добра помніць,
што наказаў яму партком!

Хай лічбы падаюцца скупа —
цяжкая мудрасць даўніх дзён,—
ён не паддасца, не адступіць,
не адступаў ніколі ён.

Ён возьме веды мёртвай хваткай,
як ўсё на свеце браць прывык:
сваёй шынелі да астатку
ён будзе верны, бальшавік!

І кожны шруб у будаўніцтве
выконваць будзе такт у такт,
адважнай думкі бальшавіцкай
нераможаны размах.

Ідзе вайна. І з патрухлелым бытам,
і з вечнай нерухомасцю зямлі,
і з ворагам, калісьці недабітым,—
за нетры гор і за бяскрайнасць ніў.

Супроць струхлелых дзікіх забабонаў,
супроць аджыўшых век звярыных праў,
супроць разні, супроць драпежных войнаў —
ўздымае свой штандар савецкі край.

Ён цвёрда стаў — вялікі, безбярэжны,
кругом яго суровы акіян:
з усіх бакоў цікуе нашы межы
драпежнікаў сусветных хціўны стан.

Яны рычаць, з пагрозай шчэрацць зубы!
Але каго спужае гэты рык?
Іх першы крок — апошні крок да згубы:
чырвонаармеец да вінтоўкі звык.

А трэба будзе — і завод, і поле
на кожны фронт пашлюць сваіх сыноў:
за нашу будучыню і за нашу волю
на цэлы свет мы выступім вайной.

Мы рук не цягнем да дабра чужога,
і нашых ворагаў найлепшы скарб
без бою наш: іх раб — ратай убогі,
нявольнік іх — сусветны пралетар.

На фронт! На фронт!
Няхай шумуе збожжа,
ў жалезе хай цвіце чырвоны цвет:
мы і ў бяскроўнай бойцы пераможам,
ў вайне за мір, за вызвалены свет.

*1930 г.*

## СЛУЦАК

*(паэма)*

Заліваючы далі вясёлай трывогаю,
з буйным свістам дарожны ўзвіваючы пыл,
танцавалі вятры над старымі дарогамі,
спатыкаючыся аб слупы.

Рвалі стрэшку з пахілай хацінкі аратага,
пралятвалі з выццём праз пустыя хлявы
і з пашанаю бразгалі ў брамы багатыя,
шапку скінуўшы з галавы.

Хмель па жылах гуляў,
                    ўсё нутро ўзбаламучана,
саматканы пояс зацягнуўшы вузлом,
ў вышыванай кашулі кружылася Случчына —
ажно рэха гуло.

Ажно рэха гуло над старым гадавальнікам
густапсовай пароды, блакітнай крыві.
Рай папоў, дзяржымордаў і земскіх начальнікаў
жыў і губ не крывіў.

Дый чаго іх крывіць, калі пуні напоўнены,
калі плаціць багаты падатак зямля —
і пшаніцай, і жытам, і салам, і воўнаю!
Не турбуйся — гуляй!

Праца танная, чорныя рукі дармовыя,
беднаты, парабкаў — хоць на рынак вязі;
пісне хто — дык жа ёсць гадунцы густапсовыя,
шмат над рэчкай лазы.

Шмат над рэчкай лазы,— хай маўчаць неслухмяныя,
шмат у лесе асін, хай як камень маўчаць!
Хай зашыюць ім жонкі кашулі падраныя!
Працаваць! Працаваць!

Дзве было іх заўсёды, дзве розныя Случчыны —
ў вышыванай кашулі і ў зрэбным рыззі,
з сытым рылам і з тварам, нядоляй засмучаным,
у шырокіх халявах і ў лапцях з лазы.

Побач з поўнаю клеццю, і багатай адрынаю
тлелі ў цёмных канурах гнілыя куткі,
хлеб у кішкі ўпіваўся неадменнай мякінаю,—
так вадзілася праз вякі.

І адна замыкала заваламі грознымі
ўсе парогі свае, ўсе дарогі свае.
Толькі перад раднёй — прад гасцямі вяльможнымі
адчыняліся брамы яе.

Адусюль налятаЛі бубновыя козыры
і далёкіх, і блізкіх груганоў карагод...
Напаўзалі прахвосты ўсіх масцей і колераў,
нібы мухі на мёд.

Паясы і кашулі ўздымалі штандарамі,
горда бразгалі шпорамі, білі ў званы;
так вясёлая Случчына век гаспадарыла,
уміпаючы сытыя дні.

А другая — прыбітая, ціхая Случчына,
ў жорсткай цемры блукала ля сытых акон
і кляла сваю долю кляцьбою пякучаю,
пагражаючы кулаком.

З сілай волата, але з душою дзяцінаю,
што не ўмела ні ўбачыць, ні распазнаць,
гнула горб дваццаці над адной дзесяцінаю,
каб дарма ураджай аддаць.

Вось яна, мая шчырая, родная, блізкая.
Так нядаўна... Знібыты, змардованы твар,
але ў вочах адбіўся гарачымі іскрамі
буйнай сілы пажар.

Гэта ж трэба было, каб з рабочага горада
даляцеў, як маланка, сігнал агнявы,
каб зрабіць гэту Случчыну смелаю, гордаю,
ажывіць, аднавіць.

Гэта ж трэба было, каб ў старым гадавальніку
пазмаўкалі званы, пазляталі крыжы.
Рай папоў, дзяржымордаў і земскіх начальнікаў
ужо век свой аджыў.

І аджыў ён свой век пад цяжкімі ударамі
слаўнай ленінскай гвардыі бальшавікоў.
Авангард пралетарскай сусветнае арміі
слуцкі «рай» раскалоў.

Раскалоў і пачаў будаваць яго нанава,
для інакшых часоў, для інакшых людзей,
ў бойцы з люццю кулацкай ды з нянавісцю панавай
Слуцак памаладзеў.

І стаіць цяпер Слуцак магутнаю вартаю,
на граніцы двух светаў, ў страі гарадоў,
і у сэрцы яго б'ецца ленінскай партыі
ўсесаюзная кроў.

Перацёрта на порах даўнейшая Случчына,
гадунцы перадохлі, парваўся паяс.
Не лавіць ёй больш рыбы ў вадзе ўзбаламучанай,
не вярнецца той час.

Паляцелі да чорта бубновыя козыры —
хто у прочкі, хто ў жвір, хто ў балотную твань.
Перад іхнім шыпеннем, выццём і пагрозамі
не баліць галава.

Не баліць галава, бо вадою гаючаю
сэрца ўспоена ў радаснай барацьбе.
Маладая мая, яснатварная Случчына,
гэты сказ пра цябе.

Слуцкае гісторыі стагоддзі
новае прымае пакаленне.
Усё мяняецца і ўсё праходзіць,
абнаўляючыся ў кожнай змене.

Вось і Слуцак... Вырас, абнавіўся,
кучаравы, яснавокі, статны.
...У табелі імперыі расійскай
Слуцак быў калежскі рэгістратар.

Ён засівераў у лютых бойках,
мазалі здабыў у вольнай працы,
ў барацьбе праверыў сваё вока:
навучыўся з ворагам змагацца.

У стуку цэглы і у звоне сталі
аднае ён стаў крыві і рода
з тымі, што сцяной магутнай сталі
ад Днястра і да Варангер-ф'ёрда.

Не гудуць гудкі на слуцкіх пожнях,
ён пакуль жалезам небагаты.
Ды ў краіне Слуцак не апошні —
ён у нас заслужаны араты.

Мінск рабочы — на чале краіны,
і муры муруюць Гомель, Віцебск,
Слуцак пралетарскую адрыну
насыпае жытам і пшаніцай.

Ён скародзіць поле, звозіць крушні,
яго цэх крышталькы, сіні, ясны.
І у нашым будаўніцтве дружным
Слуцак — наш перадавы калгаснік.

І яму адчынены ўсе дзверы,
да яго цягнік бяжыць са свістам,
для яго працуюць інжынеры
і не спяць начамі камуністы.

Для яго Чэлябінск трактар робіць,
грузавік яму збірае Горкі:
з імі ён адной крыві і роду,
з імі ён шагае роўным крокам.

Са старэйшымі братамі поплеч
ў будучыню цвёрда ён шагае.
Нібы сонца у драбнюткай кроплі,
Ленінская думка ў Слуцку ззяе.

Няможна грэбаваць нічым
у важнай і вялікай справе.
Паслухайце, як на Случы
З Кальвінам ГЭТ змагаўся слаўна.

Калісьці страх было прайсці
у тлустай цемры вуліц вузкіх.
Але сягоння зіхаціць
электрыка у новым Слуцку.

Дзе сумна тлелі лучнікі,
газніцы смутныя мігцелі,
там узялі бальшавікі
у новы мур старую цэглу...

...Даўней, як пáпы і папы
аўтарытэт свой сталі траціць,
трывожны смутак ахапіў
князёў за дабрабыт магнацкі.

І, каб нанова надзяліць
надзеяй райскай селяніна,
князі з Жэневы прывязлі
навінку модную — Кальвіна.

Кальвін асеўся на Случчы
злавеснаю і чорнай плямай
і бедакоў пачаў вучыць
па-новаму аб тым жа самым.

— Працуй, цярпі
і не ўздымай
вачэй ад земскіх маястатаў.
Тут пану панава аддай,
там будзеш мець за ўсё аплату.

Вякі прынеслі шмат навін.
Князі даўно дашлі да ручкі.
А ўсё пічэ ў Слуцку Жан Кальвін
сядзеў начной драпежнай птушкай.

Але настаў нарэшце дзень...
У дзверы чорныя сабора,
не кланяючыся, ідзе
госць новы з поглядам напорным.

Не забываючыся, ідзе,
глядзіць навокал пільна, строга.
Разгневаны Кальвінаў цень
загарадзіў яму дарогу.

Ў вачах палаючая злосць,
з кляцьбою высака узвіты...
— Як смееў ты, нечасцівы госць,
ўвайсці у дом мой, дом малітвы?

А госць адказвае наўпор:
— Адкуль ты гэтакі узяўся?
Па канстытуцыі сабор
належыць Слуцкаму камгасу.

Яго й бярэ цяпер камгас —
і як належыць скарастае:
дынама стане тут у нас,
таксама новы дызель стане.

Дамо святла ва ўсе куткі,
у млын, у пільню ток пагонім...
Між іншага,
хто ты такі?
Вар'ят ці проста непрытомны?..

— Хто я, няшчасны,— Жан Кальвін,
прарок, слуга жывога бога,
цябе ж, граху гарэзны сын,
найвышні пакарае строга.

Госць у адказ: — Не залівай.
Занадта нешта ты мудруеш.
Хоць сто найвышніх выклікай —
ад іх адказу не пачуеш.

Патрэбна гораду святло.
Нам прыхаджане перадалі
сабор гэты, што варт на злом,—
ён Слуцку дасць дабра нямала.

Дэвотак нават запытай,
прайшоўшыся па ўсіх дзядзінцах,
што ім мілей —
на небе рай
ці тут, у Слуцку, электрычнасць?

Усім абрыдаў тут трызвон
ды байкі пра багоў, пра неба.
Ты, дзядзька, вымятайся вон,
а то яшчэ сапрэш што-небудзь.

Пайшоў Кальвін з двара у двор,
і ўсюды чуў адзін адказ ён:
— Не ведаем, што там, ля зор,
а тут смярдзіць страшэнна газай.

А пеклам нас ты не дзіві —
мы з панскіх выбіліся ручак!..
Закрыўшы вочы, Жан Кальвін
ў Жэневу рушыў прэч са Слуцка.

Пайшоў Кальвін са Слуцка прэч,
дарэмна змарнаваўшы годы,
і лямпа ГЭТа ў сотні свеч
яго змяніла назаўсёды.

Бярвенні стузамі ляжаць,
сваёй чаргі яны чакаюць.
Нядоўга ім ужо чакаць —
чарга іх хутка наступае.

Не ўзяць са слуцкай пільні шмат,
занадта ўжо яна малая.
Аднак жа пралетарыят
і ёй рахунак прад'яўляе.

Свіргочуць рамы — шух-шух-шу,—
сцякаюць пахкім пілавіннем:
— Я пагашу, я па-га-шу
рахунак,
складзены краінай.

Вы, што праходзіце няўзнак
каля звычайнай хвойнай дошкі,
спыніце на хвіліну шаг,
зірніце ды разважце трошкі.

Яна не скажа аб сабе,
аб родзе сваім, пахаджэнні,
аб безупыннай барацьбе,—
вам дапаможа уяўленне.

Вакол яе ішла вайна
за якасць, сабекошт і тэмпы,
і нарадзілася яна
раней за вызначаны тэрмін.

Ёй кінуў злоснік хмуры зрок,
ударнік прывітаў усмешкай:
яна — яго чарговы крок
па сацыялістычных сцежках.

Яна ляжала на дажджы,
і злодзей скраў яе са склада,
яго злавілі уначы
хлапцы з ударнае брыгады.

Пасля на мост яе прыб'юць —
канцы дарог яна павяжа:
па ёй машыны пабягуць,
воз прапаўзе з цяжкой паклажай...

А мо ёй прыйдзецца ляжаць
у новым доме,
ў моцнай столі,
ці галерэю абшываць
дзе-небудзь у далёкай штольні.

З яе карысці будзе шмат
усюды — ў Слуцку ці ў Данбасе,
куды б ні слаў яе загад
краіны, партыі і класа.

Пяе піла, звініць піла,
нібы не з сталі — з парцэляны:
— За прамфінплан, за прамфінплан.
Дамо яшчэ, дамо звыш плана.

Звыш плана мы яшчэ, сябры,
шэсць дошак выпіліць павінны:
няхай з іх зробяць цесляры
жыццю старому дамавіну...

Калі ў поле выходзілі межы зрываць,
завівайся, лянок, завівайся.
Там чарнобыль па нас бедаваў, гараваў.
Буйнай сілай, жытцо, налівайся!

Шчэрыў зубы сусед на сваёй на мяжы,
завівайся, лянок, завівайся.
Бабы крумкалі недзе — не жыць вам, не жыць.
Буйнай сілай, жытцо, налівайся!

Калі мы малатарню ў суседа ўзялі,
завівайся, лянок, завівайся.
Ён бажыўся, што ёсць на руках мазалі.
Буйнай сілай, жытцо, налівайся!

У суседа мазоль ад тугіх капшукоў,
    завівайся, лянок, завівайся.
Жыта ў яме, а ў стайні зарэзаны конь.
    Буйнай сілай, жытцо, налівайся!

Як сябра на вайне, ратавалі каня,
    завівайся, лянок, завівайся.
Папялішчамі ўночы смылела вайна.
    Буйнай сілай, жытцо, налівайся!

Калі прэч мы пагналі суседа свайго,
    завівайся, лянок, завівайся.
Наклікаў ён на нас і ваду, і агонь.
    Буйнай сілай, жытцо, налівайся!

А як новае поле без межаў гуло,
    завівайся, лянок, завівайся.
І пастукаў калгасны да нас умалот.
    Буйнай сілай, жытцо, налівайся!

Залацелі ваенным трафеем снапы,
    завівайся, лянок, завівайся.
Пелі косы альтом, дыскантамі — сярпы.
    Буйнай сілай, жытцо, налівайся!

Мы пазвозілі пуні з падворкаў старых —
    завівайся, лянок, завівайся.
Еўню новую вывелі нам цесляры.
    Буйнай сілай, жытцо, налівайся!

Да гары мы снапамі заклалі яе,
завівайся, лянок, завівайся.
Ў тых снапах наша праца блішчыць і пяе.
Буйнай сілай, жытцо, налівайся!

Як вулей вуліца гудзе,
драбіны войкаюць надрыўна:
сабраліся у святы дзень
аднаасобнікі на рынак.

Грыбоў вялікі перавяз,
капуста квашаная ў цэбры.
І ходзіць пуга раз у раз
па конскіх вытыркнутых рэбрах.

На кожнай конскай галаве
гара спрадвечнай конскай жальбы.
Спытайцеся,
чым конь жыве,—
ён вам нямала расказаў бы.

Ён вам сказаў бы, што надзел
гаспадара занадта вузкі,
што трэба вечна з дня у дзень
струхлелую салому хрумстаць.

Ён скажа: — У маім хляве
шмат болей дзірак, чымся сценак:
улетку неяк пражывеш,
а ўзімку холадна страшэнна.

А ў працы ўсюды конь ды конь —
канём усе заткнуты дзіркі.
Гаспадара шкада: хай ён
жыве й засквaранай заціркай,

хай і смачнейшая яна
ад той, што некалі бывала.
Але хіба ішла вайна
ўсяго за адрабінку сала?

Павінен жа сябе бядняк
цаніць высокай, поўнай мерай.
А гаспадар мой аніяк
ў адкрытыя не ўвойдзе дзверы.

І дзіўна: цэлы век пражыў,
і шыю гнуў, і спіну горбіў,
а сцеражэ свае мяжы,
як дурань пісанае торбы.

Усё вакол яго расце,
разгортваецца ўшыркі, ўдоўжкі;
з сваёй мяжою у хвасце
паўзе ён непрыкметнай мошкай.

А што дала яму мяжа?
І сам ён гэтага не знае.
Звычайны нэндзны ураджай
тузе канца не абяцае...

З тугі апошнюю аброць
мой гаспадар аддаў за чарку.
Што ні кажыце, я супроць
аднаасобнай гаспадаркі.

Гэта можа толькі сніцца.
Змрок бязмежны і глухі.
Пачыналі дарасіпцы
ад дубовае сахі.

Спавівала іх балота,
а туман іх калыхаў,
байкі баялі чароты,
пела песні ім альха.

Лучнікі узімку тлелі,
і пад спеў верацяна,
без усмешкі, без вяселля,
надыходзіла вясна.

Быў сусед суседу воўкам:
самы блізкі — самы злы.
Пільнавалі сквапным вокам
межы нэндзнае зямлі.

І адно палі злучала —
неадчэпная бяда:
ўсе нізіны залівала
гарапашнікам вада.

Кожны бачыў, кожны ведаў —
ўзяцца б разам ды дружней...
Ды сусед дзеля суседа
нават пальцам не кране.

І гніла ў склізоце бульба,
захлыналіся аўсы.
Вечнай зайздрасцю і згубай
быў наліты Дарасін.

Аднаго заела беднасць,
бо другі прабіўся ўверх —
і душыў свайго суседа,
як шалёны, дзікі звер.

Аскірзаліся і чэзлі.
А у той дваццаты год
з лесу гаўкалі абрэзы,
заліваўся кулямёт.

А было ж іх, і нямала,
гэтых ценяў баравых —
іх мінуўшчына наймала
бараніць свае правы.

Але партыя гукнула —
выйшаў парабак, бядняк,
сілу мужную згарнулі
у адзін тугі кулак.

Жываглота, чужаеда
да парога правялі.
І пазнаў сусед суседа
на агульнай на зямлі.

Строй убогі сох дубовых
пераходзіць у плугі.
Стромы спраў і думак новых
заліваюць берагі.

І, з суседам поплеч стаўшы,
усміхаецца сусед:
— Ўсё цяпер, суседзе, наша:
праца, свята, дзень і свет.

Не на жарт, не на забаву
з забалочаных нізін
у шырокія канавы
выгнаў воду Дарасін.

Ці магло б хаця прысніцца:
з нэндзы, з голаду, з грызні
дружным строем дарасінцы
выйшлі ў сонечныя дні.

Тут панавалі з даўніх дзён
палын ды плодны пырнік.
І дзіўна чуць вясёлы звон
аўса на гэткім жвіры.

Будынкі новыя кругом,
абора і вазоўня,
для школы дом, для ясляў дом,
і ўсё ідзе будоўля.

Ні дошкі, ані бервяна
не мелі у запасе,—
але нішто не навіна
ў згуртаваным калгасе.

Са свірнаў, еўняў ды гумён
бярвенні выбіралі.
Ўсе памяткі калішніх дзён
нявечылі без жалю.

Ўчарашнія ратаўнікі
свайго старога плота,
сабраўшыся гуртом, цвікі
нарэзывалі з дроту.

Гатова стайня, каланча,
а столькі яшчэ справы.
І Гурба, старшыня, пачаў
казаць, што клуб паставіць.

І што тут дзіўнага, калі
усім за ганьбу стала,
што іх зямля, што іх палі
ў сяўбе былі адсталі.

Таварыш Гурба аж смылеў,
кіпелі брыгадзіры;
звязаліся ў тугім вузле
энергія і шчырасць.

Гароды кінулі і ўсе
на поле разам сталі,
але закончылі пасеў
і план адратавалі.

Цяпер па хатах цішыня
і радасная змора.
— Ну, заўтра,— кажа старшыня,—
аб клубе пагаворым.

Таварыш Гурба, добры сон,
шчаслівы адпачынак.
Бясхлебіца мінулых дзён
навекі супачыла.

Ваш дружны, шчыры калектыў
зрабіў глыбокі дол ёй,
і ёй ваш ранак залаты
не замуціць ніколі.

Яна патлее ў парахню
з кулацкім сваім родам,
што вас і продкаў вашых гнуў,
халодных і галодных.

8 Зак. 4228

Ты не украдзеш ні снапа
у Селішчах з калгаснай пуні.
Дабро калгаснае Санг-фа
там дзень і ноч пільнуе чуйна.

Гарыць у небе зорак плын.
Быць можа, там Санг-фа прасочыць
вязьмо далёкіх каляін,
былыя дні, былыя ночы.

Санг-фа глядзіць, Санг-фа маўчыць,
на твары не кранецца мускул.
О не! Па зорках не злічыць
ўсіх вёрст ад Пекіна да Слуцка.

На зоркі ён і не глядзеў
з жабрачых мукдэнскіх падвалаў,
ніколі месяц не блішчэў
яму і ў томскія капальні.

Было зусім не да таго
і ў партызаншчыне таежнай,
і безуважна зірк яго
мінуў зямлі і неба межы.

Ён па зямлі начную цьму
пранізываў руплівым зрокам,
і сэрца ворага яму
над мушкай зіхацела зоркай.

Мінуў ён лёдавы Байкал,
прайшоў Бярэзіны разлівы
і супыніўся на прывал
на зіхатлівых слуцкіх нівах.

Непараўнаны ураджай
дало змаганне ў сэрцы буйным,
і палюбіў Санг-фа той край,
што бараніў ён для Камуны.

Ён разгарнуўся на ўвесь рост,
ў калгас прыйшоў з палоскі вузкай.
— Скажы, таварыш, колькі вёрст
цяпер ад Пекіна да Слуцка?

— Аб гэтым лепей не пытай,
туды ісці — аж на край свету.
Далёкі для мяне Кітай,
такі, які ён быў дагэтуль.

Там генерал ёсць, там буржуй.
Я калі-небудзь пры спатканні
ім проста ў вочы пакажу
білет былога партызана.

Я пазганяю іх з зямлі —
хай працу чорную спазнаюць.
Хутчэй бы толькі завялі
калгасы землякі ў Кітаі.

О, я б пайшоў, я б пасабіў,
і блізкаю была б дарога!
Прайшоў я школу барацьбы
і чуў дыханне перамогі.

Бядняк мілей мне і бліжэй —
ці з Пекіна ён, ці са Слуцка,
чым самы шчыры крыважэр —
кітайскі ён ці беларускі.

Чужына мне — стары Кітай,
мне ёсць дзе жыць, за што змагацца,
мне родным стаў савецкі край —
адзіная айчына працы.

Стары ссівелы аграном,
што наглядзеўся дзіваў многа,
пужаў ячэйку і райком:
— Не выйдзе з гэтага нічога.

Адно — традыцыю ламаць,
другое — дужацца з прыродай.
Не варта нават прабаваць,
псаваць насенне нават шкода.

Тут асаблівая зямля,
тэмпература, вільгаць, глеба.
Я так лічу,
што і ў план
звышранні сеў ўключаць не трэба.

Чаго не ведалі вякі,
таго не вырашаць і годы.
Райком сказаў: — Бальшавікі
умеюць дужацца з прыродай.

Умеюць і перамагаць —
галодны стэп,
Дняпро засведчаць:
ні жвір, ні камень, ні багна
нам не пасмеюць супярэчыць.

Прыгрэла сонца па снягах.
Ледзь-ледзь зямліца зачарнела.
І быў засеян першы га
ў сакавіковай пары белай.

Ўзышоў авёс. Ужо на смех
падняць хацелі агранома,
аж тут як сыпнуў новы снег,
уз'юшыўся мароз шалёны.

Такі прапаў звышранні сеў,
не здужалі, чаго хацелі.
У санях ездзяць па аўсе.
Ў райкомаўцаў вочы пасмутнелі.

Цішком смяецца аграном,
плячамі ціспе — неудача.
Не будзе ладу з тым аўсом,
бо хто ж і дзе такое бачыў...

Прыйшла вясна, сяўба, і вось
на полі, ад снягоў адкрытым,
ажыў пахаваны авёс
густым зялёным аксамітам.

Больш не смяецца аграном.
Авёс расце, авёс красуе.
Вось гэтак зруйнаваў райком
сяўбы традыцыю старую.

Надзіва урадзіў авёс.
І аграному ясна стала:
і снег, і глеба, і мароз
у тэхніцы зусім адсталі:

чаго не здужалі вякі,
тут вырашылася ў паўгода.
Ў казіны рог бальшавікі
загналі слуцкую «прыроду».

Не сніліся такія дні
яшчэ нікому і ніколі.
Хапала хлеба да вясны —
мякіну елі ад Міколы.

А сёння сталі хлеб дзяліць,
прыпомнілі, чаго хто варты.
І сумныя дзянькі прыйшлі
для неахайных і нядбайных.

І ганьба ела гультая,
нядбайлу вочы выеў сорам:
хто не гуляў, хто не стаяў,
прад імі стаў жывым дакорам.

Куды ішлі, за кім ішлі.
Чыёю працай жыць хацелі.
Не жыць такому на зямлі,
хто з мазалёў чужых сыцее.

Хто глуміць пот таварыша,
яго спрацаваныя рукі,
няхай з нішчымнага гаршка
нялёгкай зачарпне навукі.

Бясхлебіца — забыты сон
для тых, хто працаваў і верыў.
Удзячнасць ясных каласоў
ім аддаецца поўнай мерай.

Каму агульны дабрабыт
вышэй быў за свае анучы,
той права на жыццё здабыў,
таму прад доляю не гнуцца.

Адсталаму дапамажы.
Калі ён верыць у сягоння,
дык на чарговым рубяжы
дагоніць ўсіх і перагоніць.

А хто жыве ўчарашнім днём,
каго пужае шлях далёкі,
не ўвойдзе той у новы дом
свабодным гаспадарскім крокам.

Хто ж рые ямы на шляху,
у пыл паваліцца той ніцма,
і ператруць яго ў труху
пуцін далёкіх навальніцы.

Як глядзіш на буйны слуцкі росквіт,
«земляка» зусім не лішне ўспомніць.
Як вам там жывецца, пан Астроўскі,
у чыёй пярэдняй вы сягоння?

Можа, сняцца вам яшчэ маёнткі,
што на Слуцку зарабіць хацелі,
маркі, злоты, долары і кроны
або міністэрскія партфелі?

Можа, сніцца вам ваш дом у Слуцку?
(Вы б хацелі большы мець, вядома!)
Ўсякіх налізаліся вы ручак,
а няма ў вас і страхі ад дома.

Так, няма; паверце, што й не будзе,
бо на Слуцак ваша стаўка біта.
Тут жывуць зусім другія людзі,
ўсё былое знікла і забыта.

Слуцкая экзотыка сатлела,
самабытнасць тлустая — таксама.
Случчына у будучыню смела
зашагала за бальшавікамі.

Не памог вам кайзер, ні Дзянікін,
будзе так і з Гітлерам, і з кожным.
І у вашай роспачы вялікай
мо алжырскі бей вам дапаможа.

Паспрабуйце! Што ж тут ёсць такога!
Можна падбадзёрыць бея крышку:
нашапчыце, што пісьменнік Гогаль
напісаў пра нейкую там шышку.

Можа, бей пакрыўдзіцца і вышле
армію знішчожыць Край Саветаў.
Толькі каб не мець выдаткаў лішніх,
пачакайце задаваць банкеты.

Не спяшайцеся: налётаў зброднных
не баяцца сёння ўжо случане;
зорка варашылаўскіх паходаў
зіхаціць і ў Слуцку на Трайчанах.

І зіяе зорка тая ясна
над кагортай гарадоў сталёвых,
па-над кожнай хатаю калгаснай,
над усёй працоўнаю зямлёю.

І яе прамені моцна джаляць
ўсіх, хто руку ўздыме на Саветы,
бо яна, палаючы, злучае
пралетарыяў ўсяе планеты.

Так што пачакайце, пан Астроўскі,
хоць і вельмі ласы вы і скваппы:
хто ўздымае лапу на наш росквіт,
застаецца той зусім без лапы.

Разумеюць нават нашы дзеці,
хай і кожны гэта добра знае:
калі ў байцы вораг не здаецца,
мы яго бязлітасна знішчаем.

Вам, што здолелі Слуцак па-новаму вырасціць,
разгарнуўшы звычайныя годы ў вякі,
вам складаю я словы захаплення і шчырасці,
слуцкія бальшавікі.

З украінскіх стэпаў ці з Сібіры далёкае,
ад Дзвіны ці ад Нёмна прыходзілі вы,—
вы шагалі наперад жалезнымі крокамі,
не шкадуючы галавы.

Вы ішлі без вагання, крутыя, упартыя,
на бандыцкі абрэз, на балотную твань.
Вы жылі баявымі загадамі партыі.
Хто з вас сіл шкадаваў?

Вас не страшыла нават магіла вільготная,
вы за справу без роспачы аддавалі жыццё —
толькі ў сэрцы гуло і кіпела грымотнае
бальшавіцкае пачуццё.

Ажываюць у сэрцы суровай пяшчотаю
чатырнаццаць замучаных партызан,
і імёны Манахава і Ферапонтава * —
новай Случчыны рань.

Не памерлі ў вас думкі забітых, замучаных,
яны толькі далей заклікалі жывых.
Калі тлела ў бандыцкай нянавісці Случчына,
не схіляліся вы.

За нянавісць плацілі вы жорсткай нянавісцю.
Смертаносным ударам канчалі вы бой,
і, знямогшыся, ворагі вашы згіналіся
пад магутнаю вашай рукой.

Ўсе куткі запалілі сваім захапленнем вы
і, адданасці вечнае даўшы зарок,
правяралі і мералі думкамі Леніна
кожны ўздых, кожны крок.

...Вы крышылі зямлю, гуртавалі, збіралі,
ваявалі за хлеб, ураджаі вялі.
Вашы грудзі ў змаганні пажарам палалі,
вы ж наперад ішлі.

* Члены слуцкай арганізацыі КП(б)Б, якія загінулі ў баях за новы Слуцк.

Дабівалі прахвостаў ўсіх масцяў і колераў.
Як калісь на Дзянікіна і Калчака,
нас вадзіла на зябліва, ворыва, поліва
дырэктыва ЦК.

І не чулі вы жалю па юнасці страчанай,
не глядзелі, як сыплецца дзён белы цвет.
І жыццём, і каханнем, і пяшчотаю матчынай
быў для вас партбілет.

А юнацтва ізноў, нібы Фенікс вясёлкавы,
адраджалася з попелу, і жыло, і цвіло.
І пад сівымі скронямі — кроў камсамольская,
і ў вачах — незмяркаючае святло.

Загартаваны мускулы ленінскай цвёрдасцю,
ў сэрцы энтузіязму б'юцца рухавікі.
Ў вас жыве рэвалюцыі вечная моладасць,
слуцкія бальшавікі.

*1932—1933 гг.*

## ЗМЕСТ

**Дудар А.**

Д 81 Вежа: Вершы і паэмы/[Склад., аўт. прадм. М. Ярош].— Мн.: Маст. літ., 1984.— 134 с., іл.— (Б-ка беларус. паэзіі).

У пер.: 60 к.

А. Дудар — паэт той паслярэвалюцыйнай хвалі ўлюбёнасці ў роднае слова, веры ў ягоную моц і неўміручасць. Усіх, каго цікавіць кожны этап развіцця беларускай паэзіі, уразіць самабытнае слова Алеся Дудара сваёй непасрэднасцю, сваёй народнай сілай.

$Д \frac{4702120200-081}{М302(05)-84}$ 126—84

ББК 84Бел7

Бел2

Библиотека белорусской поэзии

АЛЕСЬ ДУДАР (Александр Александрович Дайлидович). **Башня.** Стихи и поэмы. Минск, издательство «Мастацкая літаратура». На белорусском языке.

Рэдактар Р. І. Барадулін. Франтыспіс А. А. Хвядорчанкі. Афармленне В. С. Юрчанкі. Мастацкі рэдактар Л. Я. Прагін. Тэхнічны рэдактар А. Б. Барадзіна. Карэктар Т. В. Трубач.

ІБ № 2056

Здадзена ў набор 24.11.83. Падп. да друку 2.04.84. АТ 01083. Фармат 60×90 1/32. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 4,25. Ум. фарб.-адб. 5,38. Ул.-выд. арк. 3,95. Тыраж 2000 экз. Зак. 4228. Цана 60 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.
Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.